ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№1 (118) студзень 2021 год
CATHOLICNEWS.BY

# Малітва аб еднасці хрысціян адбылася ў Віцебскай катэдры


Стар. 7

## Музычныя традыцыі беларускіх касцёлаў у канцы XVIII – XIX стагоддзях


Стар. 4-5

## Арцыбіскуп Кандрусевіч асвяціў касцёл у Мінску


Стар. 9

## От слов к делу: реализация новогодних планов


Стар. 6

Больш матэрыялаў чытайце на сайце Catholicnews.by



# Папа Францішак прыняў адстаўку арцыбіскупа Кандрусевіча


Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч

**Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч сышоў на пенсію. 3 студзеня 2021 г., у дзень, калі Мітрапаліту Мінска-Магілёўскаму споўнілася 75 гадоў, Папа Францішак прыняў яго адстаўку і прызначыў Адміністратара архідыяцэзіі.**

У афіцыйнай заяве Святога Пасаду гаворыцца: "Святы Айцец прыняў адмову ад пастырскага кіраўніцтва, прадстаўленую Яго Эксцэленцыяй арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам, Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім, у адпаведнасці з канонам 401 §1 Кодэкса Кананічнага Права, і адначасова прызначыў Апостальскім Адміністратарам sede vacante на згаданую мітрапаліцкую кафедру біскупа Казіміра Велікасельца OP, тытулярнага біскупа Бланды і дапаможнага біскупа Пінскай дыяцэзіі".

Бэнэдыкт XVI прызначыў арцыбіскупа Кандрусевіча Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім 21 верасня 2007 г., перавёўшы яго з архідыяцэзіі Маці Божай у Маскве. З чэрвеня 2015 г. іерарх з'яўляецца Старшынёй Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. Ён стаў першым іерархам Касцёла ў Беларусі пасля часоў камуністычнага пераследу: 25 ліпеня 1989 г. Ян Павел II прызначыў Кандрусевіча Апостальскім Адміністратарам Мінскай дыяцэзіі для католікаў у Беларусі. Біскупскае пасвячэнне, якое прайшло 20 кастрычніка 1989 г. у базыліцы св. Пятра ў Рыме, узначаліў сам Пантыфік.

Падчас свайго біскупскага служэння ў Беларусі іерарх заснаваў Гродзенскую вышэйшую духоўную семінарыю, спрыяў вяртанню і адкрыццю каля ста раней зачыненых касцёлаў, прычыніўся да выдання літургічнай літаратуры, распачаўшы такім чынам справу адраджэння Касцёла, працягнутую яго наступнікам кардыналам Казімірам Свёнткам.

***

**Біскуп Казімір Велікаселец**, які ў 1984 г. скончыў Рыжскую духоўную семінарыю, з 1999 г. з'яўляецца дапаможным біскупам Пінскай дыяцэзіі. У маі 2020 г., нягледзячы на дасягненне іерархам 75-гадовага ўзросту, Папа Францішак дазволіў яму працягваць выконваць свае функцыі прынамсі наступныя два гады.

# Пажаданні Папы Францішка на 2021 год

**"Мір – гэта не толькі адсутнасць вайны, але жыццё, напоўненае сэнсам, запланаванае і пражытае ў асабістай рэалізацыі і братэрскім дзяленні з іншымі", – сказаў Папа Францішак 1 студзеня 2021 года падчас малітвы "Анёл Панскі".**



Трансляцыя адбывалася з бібліятэкі ў Апостальскім палацы Ватыкана.

Святы Айцец пажадаў, каб новы год стаў часам "чалавечага і духоўнага развіцця", "пераадолення нянавісці і падзелаў", годам братэрства і клопату адно пра аднаго і свет, часам пабудовы, а не руйнавання.

Ён нагадаў, што тэма сёлетняга Сусветнага дня міру, які адзначаецца 1 студзеня, звязана з клопатам пра бліжняга і стварэнне. "Балючыя падзеі, якія абазначылі шлях чалавецтва ў мінулым годзе, асабліва пандэмія, вучаць нас неабходнасці цікавіцца праблемамі іншых і падзяляць іх страхі. Такое стаўленне ўяўляе шлях, які вядзе да міру, таму што спрыяе развіццю грамадства, заснаванага на братэрскіх адносінах. Кожны з нас, мужчын і жанчын, пакліканы несці мір штодня ва ўсіх сферах жыцця, працягваючы руку дапамогі брату і сястры, якім патрэбна слова суцяшэння, жэст пяшчоты, салідарнасці", – адзначыў Пантыфік.

Папа Францішак растлумачыў, што "мір можна пабудаваць тады, калі пачаць жыць у міры з самім сабой і з бліжнімі, адкідаючы тое, што перашкаджае клопату пра людзей, каторыя знаходзяцца ў патрэбе, у беднасці".

"Гаворка ідзе пра развіццё клапатлівага мыслення і культуры для пераадолення абыякавасці, непрыняцця і канкурэнцыі, якія, на жаль, дамінуюць. Мір – гэта не толькі адсутнасць вайны, але жыццё, напоўненае сэнсам, запланаванае і пражытае ў асабістай рэалізацыі і братэрскім дзяленні з іншымі. Тады гэты мір, якога так жадаюць, і якому пастаянна пагражаюць гвалт, эгаізм і бязбожнасць, становіцца магчымым і дасягальным", – падкрэсліў Пантыфік.

Святы Айцец нагадаў, што не можна ў поўнай меры дасягнуць міру пры дапамозе толькі чалавечых рэсурсаў. "Перш за ўсё, мір – гэта дар Божы. Пра яго трэба прасіць у пастаяннай малітве, падтрымліваючы цярплівы і паважлівы дыялог, выбудоўваць супрацоўніцтва, адкрытае для праўды і справядлівасці, і заўсёды клапаціцца пра справядлівыя памкненні людзей і народаў. Няхай мір запануе ў сэрцах і сем'ях, у месцах працы і забаў, у супольнасцях і народах", – сказаў Папа.

Ён пажадаў "шчаслівага і мірнага 2021 года". "Няхай гэта будзе год братэрскай салідарнасці і міру для ўсіх! Год, поўны даверлівых чаканняў і надзей, якія мы давяраем нябеснай абароне Марыі, Маці Божай і нашай Маці", – звярнуўся да вернікаў Папа Францішак.

*Старонка падрыхтаваная па матэрыялах Беларускай рэдакцыі Vatican News*



# Папа зрабіў паслугі лектарата і акалітату даступнымі для жанчын

**11 студзеня быў абнародаваны motu proprio Папы Францішка пад назвай "Spiritus Domini", згодна з якім жанчыны афіцыйна атрымалі доступ да паслугаў лектарата і акалітату.**

Ужо не адно дзесяцігоддзе жанчыны чытаюць Божае слова падчас літургічных цэлебрацый, служаць пры алтары ў якасці міністрантаў і раздаюць св. Камунію: у многіх каталіцкіх супольнасцях у розных частках свету гэта практыка была дазволеная біскупамі.

Да гэтага часу, аднак, выкананне жанчынамі такога служэння адбывалася без інстытуцыйнага мандату, у абход рашэння Паўла VI, які ў 1972 г. захаваў доступ да лектарату і акалітату выключна для асобаў мужчынскага полу. Цяпер жа Францішак у святле разважанняў, якія мелі месца падчас некалькіх апошніх Сінодаў Біскупаў, распарадзіўся зрабіць жаночую прысутнасць пры алтары афіцыйнай.

Апостальскім лістом "Spiritus Domini" Папа змяніў § 1 канона 230 Кодэкса Кананічнага Права, пастанавіўшы, што да ўзгаданых паслугаў могуць прызначацца і жанчыны. Для гэтага павінен здзяйсняцца прадпісаны літургічны абрад.

У новай фармулёўцы канона гаворыцца, што "свецкія вернікі, якія дасягнулі таго ўзросту і валодаюць тымі здольнасцямі, якія вызначаны дэкрэтам Канферэнцыі Біскупаў, пасля здзяйснення прадпісанага літургічнага абраду могуць прызначацца на пастаянныя паслугі лектарату і акалітату". Дагэтуль тут гаворка ішла толькі пра "свецкіх мужчын".

Пантыфік удакладніў, што яго дакумент стаў адказам на прапановы, якія гучалі падчас розных сінадальных асамблей. Ён заўважыў, што развіццё веравучэння ў апошнія гады "праліла святло на тое, што пэўныя паслугі, устаноўленыя Касцёлам, маюць у сваёй аснове агульны стан ахрышчаных і каралеўскае святарства, атрыманае ў сакраманце хросту". У той жа час Папа падкрэсліў, што служэнне свецкіх вернікаў у Касцёле "сутнасна адрозніваецца ад служэння прэзбітараў, якое атрымліваецца з сакраментам пасвячэння".

Motu proprio суправаджаецца лістом да прэфекта Кангрэгацыі Веравучэння, кардынала Луіса Ладарыя Фэрэра, у якім Святы Айцец патлумачыў тэалагічныя прычыны свайго рашэння. Папа звязаў іх з абнаўленнем, пачатым Другім Ватыканскім Саборам, і тэрміновай патрэбай у "адкрыцці нанова сумеснай адказнасці ўсіх ахрышчаных у Касцёле і асабліва місіі свецкіх вернікаў".

Папа Францішак нагадаў словы св. Яна Паўла II пра тое, што "Касцёл ніякім чынам не можа ўдзяляць прэзбітэрскае пасвячэнне жанчынам". На яго думку, доступ вернікаў абодвух полаў да паслугаў лектарату і акалітату зробіць больш плённым удзел усіх у евангелізацыйнай дзейнасці і павысіць прызнанне іх каштоўнага ўкладу ў місію Касцёла.

# Пантыфікат Францішка даўжэйшы за пантыфікат Бэнэдыкта XVI

**Пантыфікат Францішка трывае ўжо даўжэй за пантыфікат яго папярэдніка Бэнэдыкта XVI. На гэта звярнуў увагу былы кіраўнік нямецкамоўнай рэдакцыі Ватыканскага радыё нямецкі езуіт Бернд Хагенкорд.**



"Спражкай" паміж двума пантыфікатамі стала рашэнне Бэнэдыкта XVI у 2013 годзе падаць у адстаўку. Гэта наклала адбітак і на яго наступніка. Абодвум Пантыфікам даводзілася сутыкнуцца з нявырашанай пакуль да канца праблемай рэформ у Ватыкане. Паводле кс. Хагенкорда, выклік настолькі сур'ёзны, што з ім, магчыма, давядзецца сутыкнуцца яшчэ і наступнаму Папу.

Хоць у абодвух Пантыфікаў была адна мэта – пераемнасць св. Пятра ў менш уладнай і больш пастырскай форме – езуіт бачыць істотныя адрозненні паміж Папам з Германіі і Папам з Аргенціны. З 2013 года значна змяніўся стыль: Францішак у асноўным факусуецца на харызме, аўтэнтычнасці і прысутнасці ў сродках масавай інфармацыі, канцэнтруецца на Паўсюдным Касцёле.

"Пачынаючы з папскага імя, Ёзэф Ратцынгер быў класічным еўрапейскім Пантыфікам: ён здзейсніў 24 замежныя паездкі, у тым ліку ў многія краіны нашага кантынента. Францішак да гэтага часу рэалізаваў 31 замежнае падарожжа за фактычна карацейшы на год перыяд, паколькі пандэмія заблакавала ўвесь 2020 год. У спіс краін, якія наведвае цяперашні Папа, не ўваходзяць найбольш важныя еўрапейскія, такія, як Іспанія, Францыя ці Германія, тое ж мы бачым у прызначэннях кардыналаў", – падкрэсліў кс. Хагенкорд у інтэрв'ю кёльнскаму Domradio. Такім чынам, на яго думку, па меншай меры на ўзроўні Святога Пасаду Еўропа значна адстала па значнасці з пункту гледжання Паўсюднага Касцёла.

Эксперт прагназуе доўгі пантыфікат Францішка: "нягледзячы на сталы ўзрост і хваробы ў мінулым, Папа не слабы і не стомлены". На думку былога кіраўніка нямецкамоўнай рэдакцыі Ватыканскага радыё, не зменяцца і асноўныя лініі – як у працягу, так і ў разыходжанні з папярэднім пантыфікатам.

Трэба звярнуць увагу, што з 11 студзеня 2021 года перыяд прабывання Бэнэдыкта XVI на пенсіі ўжо даўжэйшы за час яго кіравання Касцёлам. Яго пантыфікат працягваўся 2873 дні, а ўжо мінуў 2874-ы дзень з моманту, калі ён змяніў статус на "Папа-пенсіянер".

Бэнэдыкт XVI, ураджэнец Германіі, быў Пантыфікам з 19 красавіка 2005 года па 28 лютага 2013 года, калі падаў у адстаўку з Пасаду св. Пятра. У красавіку 2021 года яму споўніцца 94 гады.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# COVID-19 забіў у Італіі каля двухсот дыяцэзіяльных святароў

**Як мінімум дзвесце чатыры каталіцкія святары загінулі ў Італіі ў выніку заражэння каранавірусам.**

Гаворка ідзе толькі пра дыяцэзіяльнае духавенства, без уліку памерлых сярод чальцоў манаскіх супольнасцей.

Паводле каталіцкай газеты Avvenire, шмат ахвяраў было заражана падчас выканання душпастырскіх абавязкаў. З пачатку 2021 г. паведамляецца пра чатыры выпадкі смерці ад віруса сярод італьянскага дыяцэзіяльнага духавенства.

Большасць памерлых – пажылыя людзі, у тым ліку 100-гадовы кс. Альфрэда Бэрталіні з архідыяцэзіі Трэнта. Іншаму святару, Альфрэда Нікалардзі з дыяцэзіі Кома, было ўсяго 58 гадоў.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*



# Штодзённасць Бэнэдыкта XVI падчас пандэміі

**Пра штодзённасць Бэнэдыкта XVI падчас пандэміі распавёў беларускай рэдакцыі Vatican News асабісты сакратар Папы-эмерыта і Прэфект папскага дома, арцыбіскуп Георг Генсвайн.**



Сёлета Божае Нараджэнне для Бэндыкта XVI стала першым без яго брата, памерлага летам 2020 г. Тым не менш прысутнасць Георга Ратцынгера адчувалася духоўна: Папа-эмерыт часта слухаў запісы калядных спеваў у выкананні хору "Regensburger Domspatzen", якім кіраваў яго брат.

"Гэтая страта стала для Бэнэдыкта XVI ранай, якая балела падчас святаў, але ён сказаў мне, што адчуваў таксама і суцяшэнне Пана, упэўненасць у тым, што брат цяпер жыве ў Яго абдымках", – падзяліўся арцыбіскуп Генсвайн.

Сакратар Папы-эмерыта распавёў, што ў сувязі з пандэміяй штодзённае жыццё ў кляштары Mater Ecclesiae амаль не змянілася, за выключэннем абмежавання колькасці візітаў да Бэнэдыкта XVI. Святы Айцец сочыць за навінамі па тэлевізары і падзяляе заклапочанасць у сувязі з тым, што адбываецца ў свеце. "Сярод памерлых ад COVID-19 былі асобы, якіх ён ведаў", – дадаў арцыбіскуп.

Прэфект Папскага дома пацвердзіў тое, аб чым казаў раней: Бэнэдыкт XVI адчувае сябе фізічна слаба, але захоўвае абсалютную яснасць розуму. Ён перамяшчаецца з дапамогай хадункоў, яго голас аслабеў, ён больш адпачывае, але тым не менш штодзённа выходзіць са сваім сакратаром на шпацыр па Ватыканскіх садах, нават нягледзячы на халоднае надвор'е.

Арцыбіскуп Генсвайн кожны дзень служыць св. Імшу з Папам-эмерытам, які канцэлебруе седзячы. Для яго быў падрыхтаваны тэкст Літургіі гадзін з павялічаным шрыфтам, але ежу Бэнэдыкт XVI спажывае як і раней – у кампаніі жыхароў сваёй рэзідэнцыі.

# Музычныя традыцыі беларускіх касцёлаў

**Часам можна сустрэцца з перакананнем, што раней для музычнага суправаджэння набажэнстваў выкарыстоўваўся выключна арган. Аднак гэтае выказванне не зусім карэктнае. Для беларускіх касцёлаў былі характэрныя ўласныя музычныя традыцыі.**

**Раіса Зянюк**, *кандыдат гістарычных навук (Мінск)*

Паколькі важным элементам рэлігійнай практыкі рымска-каталіцкай царквы выступала музыка, невыпадковым было з'яўленне пры кляштарах асяродкаў навучання ёй. Ігры на музычных інструментах і спевам таксама вучылі і ў каталіцкіх агульнаадукацыйных школах, якія дзейнічалі ў той перыяд – парафіяльных (пачатковых), павятовых – і гімназіях. Аднак існавала неабходнасць больш паглыбленага і спецыялізаванага навучання будучых музыкантаў. Для гэтага ствараліся адмысловыя школы – музычныя бурсы. Заснавальнікам такога кшталту навучальных устаноў быў ордэн езуітаў. Музычныя бурсы існавалі ў Полацку (з канца XVI да 20-х гг. XIX стст.), Оршы (з 1634 г. да 1820 г.), Віцебску (з 1676 да пачатку XIX ст.), Нясвіжы (з першай паловы XVII ст.), Мінску, Гродне (з 1704 г.), Слуцку, Магілёве (з канца XVII ст.), Навагрудку (з сярэдзіны XVII ст.), Пінску, Слоніме (з першай паловы XVIII ст.), Юравічах, Мсціславе (з другой паловы XVIII ст.). Па сваёй арганізацыі бурсы ўяўлялі сабой музычныя школы-інтэрнаты, дзе дзеці незаможных бацькоў атрымлівалі музычную і агульную адукацыю.

Вучні бурсаў знаходзіліся ў іх на поўным утрыманні. Моладзь навучалася тэорыі музыкі, асновам кампазіцыі, ігры на музычных інструментах (аргане, флейце, трубе, дудзе, ліры, цымбалах, скрыпцы, клавесіне). Працэс навучання доўжыўся тры гады. Адукацыя ў такіх навучальных установах была бясплатнай. Бурсісты дапамагалі ў музычным аздабленні набажэнстваў у езуіцкіх касцёлах.

> **„Адукацыя ў такіх навучальных установах была бясплатнай"**

У некаторых выпадках музыцы навучалі і ў агульнаадукацыйных школах. Праўда, гэты прадмет маглі вывучаць не ўсе вучні. Такая школа існавала, напрыклад, пры Бялыніцкім кляштары кармелітаў. Музычная падрыхтоўка адбывалася паралельна з агульнай, пачатковай – у парафіяльнай школе. У дакументах адзначаецца: "Школа парафіяльная ўтрымліваецца заўсёды. 6 чалавек са шляхты вучняў кляштар утрымлівае, 8 – корміць і апранае, дваім – апрача стала і адзення за тое, што ходзяць на музыку ў хор, кляштар часткова нават даплачвае".

"Хадзіць на музыку" ў дадзеным выпадку азначала ўдзельнічаць у працы аркестра, які існаваў пры касцёле. У бялыніцкім касцёле і кляштары кармелітаў гэты аркестр у 1832 г. складаўся з 14 музыкантаў. Склад аркестра быў неаднародны паводле сацыяльнага паходжання ўдзельнікаў. Сярод іх былі як шляхцічы – Іван Арол (спеў і скрыпка), Іван Шушкевіч (спеў), – так і сяляне з фундушавага маёнтка, які належаў кляштару: Сяргей Іваноўскі (скрыпка, кларнэт, валторна і арган), Міхайла Лявонаў (квартвёля, валторна і кларнэт), Ануфрый Іваноў (валторна), Марцін Іваноў (фагот і віяланчэль), Даніла Нікіцін (скрыпка, барабаны, спеў), Архіп Нікіцін (кларнэт і флейта), Антон Ермалаеў (флейта), Мікалай Іваноў (флейта), Амос Аксёнаў (труба), Ермалай Ларыёнаў (валторна), Восіп Гаўрылаў (скрыпка, арган, спеў). Кіраваў аркестрам шляхціц Юзаф Буйневіч. У дакументах ён пазначаны як капельмейстр. Яму бялыніцкія кармеліты плацілі 250 рублёў у год і давалі сталовае ўтрыманне.

У наяўнасці ў бялыніцкім касцёле былі наступныя інструменты: 6 скрыпак, 1 альт, 1 віяланчэль, 1 квартвёля, 2 валторны, 3 трубы, 2 флейты, 4 кларнэты, 1 "пікуліна" (флейта-пікала), 1 фагот. Пра тое, што падрыхтоўка ўдзельнікаў аркестра была грунтоўнай, сведчыць і бібліятэка нот, якія выкарыстоўваліся. Так, у бялыніцкім касцёле іх налічвалася: спяваных Імшаў – 60, літаній – 22, нешпараў – 20, песняў святым – 10, сімфоній – 75, уверцюр – 22, канцэртаў – 6, квартэтаў – 30, квінтэтаў – 6, іншых нот – 40. Адначасова ў дакуменце адзначалася, што "поимянованные в сем списке музыканты играют довольно порядочно", аднак звярталася ўвага, што інструменты, якія выкарыстоўваліся ў аркестры, ужо дастаткова старыя. Ікона Маці Божай Бялыніцкай была ў тыя часы самай вядомай і шанаванай у Беларусі, а касцёл, кляштар кармелітаў і само мястэчка раней называлі "беларускай Чэнстаховай". Таму аркестр музычна аздабляў не толькі шараговыя набажэнствы, але таксама іграў падчас урачыстасцей Маці Божай Бялыніцкай, да якой у тыя часы пілігрымавалі прадстаўнікі ўсіх хрысціянскіх канфесій.

Ёсць звесткі, што і глыбоцкія кармеліты ўтрымлівалі аркестр з 40 чалавек, які іграў не толькі на набажэнствах, але і ў святочныя дні даваў канцэрты з балкона над уваходам у касцёл.

У XIX ст. дастаткова вядомым быў і аркестр пры Магілёўскай архікатэдры. У дакументах ён фігуруе як "музыка / музыка пры архікатэдры". Арганізацыя дзейнасці аркестра была своеасаблівай. Бацькі аддавалі туды сваіх дзяцей ва ўзросце ад 11 гадоў на так званы "кантракт" на тэрмін ад 7 да 15 гадоў. Падчас "кантракту" маладога чалавека архікатэдра павінна была поўнасцю ўтрымліваць: карміць, апранаць, даваць музычную і агульную адукацыю. Атрымаўшы пачатковую музычную адукацыю, малады чалавек мусіў удзельнічаць у працы аркестра як на набажэнствах, так і падчас прынагодных выступленняў.

Для "музыкі" пры архікатэдральным касцёле быў выдзелены асобны дом. Кожнаму музыканту выдавалася вопратка і бялізна: шапкі, хустачкі, кашулі, штаны пляцяныя, кажухі, штаны новыя суконныя, суконныя сурдуты, плашчы новыя суконныя, прасціны, навалачкі, коўдры суконныя. Магілёўскую "музыку" абслугоўваў наняты штат прыслугі: дзве кухаркі, вартаўнік, шавец, і два габрэі: адзін – вадавоз, другі – камінар.

Поспехі ў вывучэнні музыкі перыядычна правяраліся. Напрыклад, 16 сакавіка 1838 г. раніцай у доме музыкантаў па распараджэнні Магілёўскай кансісторыі быў праведзены экзамен. Туды камандзіравалі спецыяльна створаную магілёўскім капітулам камісію ў складзе каноніка кс. Ласкага, прадстаўніка архідыяцэзіяльнага кіраўніцтва, мансіянарыя кс. Чыжа, ксяндза-прэфекта Кеўліча, капелана-біскупа кс. Гурскага і настаўніка музыкі пана Сіпайлы. Асноўнай іх задачай было "пераканацца ў ступені дасканаласці і на якім узроўні сёння знаходзіцца музыка". Экзаменавалі паасобку кожнага музыканта, правяралі як уменне спяваць, так і ўменне іграць на музычных інстументах.

Дзейнасць аркестра пры Магілёўскай архікатэдры нагадвала больш раннюю традыцыю навучання музыцы: арганізацыі пры кляштарах і касцёлах школаў спеву – мэтрызаў. У іх выкладаліся спевы, ігра на аргане і іншых інструментах. Акрамя музычнай, вучням давалася і агульная адукацыя. Але гісторыя іх дзейнасці закончылася, верагодна, у сярэдзіне XVIII ст., паколькі ў XIX ст. такой назвы музычных школ на беларускіх землях не сустракаецца.

У 1838 г. аркестр Магілёўскай архікатэдры складаўся з наступных музыкантаў: 1) Базыль Паўлоўскі – 22 гады, адданы на 7 гадоў (тут і далей маецца на ўвазе "кантракт") 01.01.1831 г., іграў на віяланчэлі, квартвёлі і фагоце, спяваў басам; 2) Амброзій Камінскі – 17 г., адданы на 8 г. 20.12.1830 г., іграў на кларнэце, скрыпцы і альтоўцы; 3) Ежы Нядзведзкі – 18 г., адданы 12.10.1831 г. на 10 г., іграў на скрыпцы, альце і кларнэце; 4) Мацей Красоўскі – 16 г., адданы 20.01.1831 г. на 9 г., іграў на валторне, трубе і трамбоне; 5) Аляксандр Верашчака – 15 г., адданы 08.03.1831 г. на 9 г., іграў на трубе і валторне; 6) Клеменс Філіповіч – 15 г., адданы 01.06.1835 г. на 12 г., іграў на квартвёлі; 7) Адам Паўловіч – 11 г., адданы 01.03.1836 г. на 12 г., іграў пачаткі на скрыпцы і спяваў дыскантам; 8 ) Фларыян Паўловіч – 9 г., адданы 01.05. 1836 г. на 12 г., вучыцца спяваць дыскантам і пачаткі на валторне; 9) Дыянізій Адуцкевіч – 8 г., адданы 01.08.1836 г. на 12 г., вучыўся іграць на кларнэце; 10) Юзаф Лукомскі – 13 г., адданы 01.01.1834 г. на 10 г., вучыўся іграць на валторне; 11) Гжэгаж Лукомскі – 11 г., адданы 01.01.1834 г. на 10 г., вучыўся іграць на валторне; 12) Ян Аношка – 12 г., адданы 25.06. 1837 г. на 15 г., вучыўся іграць на флейце; 13) Юзаф Аношка –16 г., адданы 25.06.1837 г. на 12 г., вучыўся іграць на кларнэце; 14) Станіслаў Камёнка – 12 г., адданы 01.01.1834 г. без акрэслення тэрміну і без умоў, іграў на альтоўцы, скрыпцы, вучыўся спяваць альтам; 15) Юзафат Аболецкай – прыняты без акрэслення тэрміну і умоў, вучыўся іграць на флейце і браў урокі асноваў ігры на фартэпіяне.

Кіраваў аркестрам і ўсім працэсам навучання Язафат Сіпайла. Сваю працу на гэтай пасадзе ён распачаў па кантракце ад 06.03.1837 г. Акрамя заробтнай платы, Магілёўская катэдра павінна была выплачваць яму вызначаныя сумы на прадукты, а таксама пастаўляць частку з іх (напрыклад, муку).

Музычныя інстументы аркестра складаліся з 1 скрыпкі-чацвяртушкі, 1 віяланчэлі, 1 альтоўкі, 5 скрыпак для пачатку навук, 7 смычкоў, кларнэту B-1, кларнэту да B-1, кларнэту C-1, 2 фаготаў, 5 валторнаў, 2 труб, 1 габоя, 2 сапсаваных медных літаўраў, аднаго малога фартэпіяна (фісгармоніі) на 4½ актавы і інструментаў для настройкі і рамонту. У 1833 г. закупілі новыя інструменты для аркестра. Набылі 2 валторны, 2 трубы з 10 тонамі, 1 трубу з 5 тонамі, 1 трамбон, 2 фаготы, кларнэт C-2, кларнэт B-2, 1 кларнэт-пікала, кларнэт F-1, 2 габоі і іншыя інструменты.

⇒



Касцёл Маці Божай Шкаплернай у Бялынічах (знішчаны савецкай уладай ў 1960-я гады). *Малюнак Напалеона Орды*

# у канцы XVIII – XIX стагоддзях

⇒ Бібліятэка нот у Магілёўскай катэдры таксама ўражвала. Перш за ўсё тым, што большасць твораў належала сучасным кампазітарам. Сярод іншых, у пераліку нот у 30-х гадах XIX ст. значацца наступныя: сімфонія Куфнера для 11 інструментаў сі-бемоль мажор, сімфонія Калівода для 18 інструментаў рэ-дыез мажор, сімфонія Ромберга для 13 галасоў рэ-дыез мажор, сімфонія Рыес для 14 інструментаў рэ-дыез, уверцюра Шпора для 20 галасоў соль-бемоль мажор, уверцюра Шпора для 20 галасоў до мінор, уверцюра Вэбэра для 20 інструментаў мі мажор, уверцюра Бетховена для 20 інструментаў до мажор, уверцюра Фэска для 19 інструментаў до мажор, уверцюра Куфнэра для 12 інструментаў до мінор, уверцюра Шнайдэра для 19 інструментаў рэ мажор, Імша Гумеля для 20 інструментаў рэ-дыез мажор, Імша для 20 інструментаў Фа мажор, урачыстая Імша на 18 інструментаў рэ-дыез мажор, Пастэрка на 18 інструментаў рэ мажор і шмат іншых.

Музыканты не заўсёды былі задаволеныя сваім ўтрыманнем, і ў 1835 г. нават скардзіліся ў магілёўскі архікатэдральны капітул. Скаргі датычыліся не толькі матэрыяльнага забеспячэння (недахоп зімовага адзення і аднастайнасць у харчаванні). Яны былі незадаволеныя адстутнасцю падручнікаў па арыфметыцы, граматыцы і тым, як выкладаюцца агульнаадукацыйныя прадметы. Што ж да музычнага складніка, то яны дамагаліся пашырэння рэпертуару, паколькі, як было адзначана ў скарзе, штодняігралі адно і тое ж. Аднак 19 лютага 1840 г. мітрапаліт загадаў значна зменшыць колькасць катэдральных музыкантаў.

"З наяўнасцю дарагіх музычных інструментаў у касцёлах звязаныя і пэўныя эксцэсы. Напрыклад, у канцы 20-х гг. XIX ст. шырокі розгалас набыла гісторыя крадзяжу з бяльніцкага касцёла. У адпаведнасці з выпіскай са справы аб гэтым крадзяжы, пачатай 12 сакавіка 1827 г., адзначалася, што злачынства заўважыў настаяцель манастыра Уладзіслаў Гудгаўд. Адбылося гэта 11 сакавіка 1827 г. Пасля правядзення расследавання аказалася, што злачынства здзейсніў прыгонны селянін гэтага кляштара, які адначасова спаўняў абавязкі арганіста – Аляксандр Данішкевіч. Па версіі следства менавіта ён займаўся тым, што выносіў з касцёла "алавяныя дудкі" (трубы) з аргана і за гарэлку аддаваў іх яўрэю Буну Рубіновічу. Той, у сваю чаргу, сабраўшы дастатковую колькасць, адвёз іх у Шклоў і прадаў там Катляру Рудкоўскаму. Гэта выявілася дзякуючы сведчанню селяніна Лявона Ляшчынскага. Ён паказаў, што вазіў Рубіновіча ў Шклоў, а падчас паездкі дастаў адну трубку з мяха. На пасяджэнні суда арганіст прызнаўся, што ў 1826 г. украў з аргана 16 "дудак" і аддаў іх Рубіновічу за гарэлку, а ў сакавіку 1827 г. па просьбе таго ж яўрэя ўкраў яшчэ адну і таксама аддаў яе за гарэлку".

Справа музычнай адукацыі пры кляштарах і касцёлах завяршылася ў XIX ст. іх закрыццём, а таксама забаронай каталіцкаму духавенству займацца асветай моладзі. Першая хваля касацыі кляштараў адбылася ў 1820 г., калі ўсім езуітам загадалі пакінуць межы Расійскай імперыі (у склад якой у той час уваходзілі беларускія землі). Наступная хваля распачалася пасля паўстання 1830-1831 гг. Чарговы масавы этап закрыцця касцёлаў і кляштараў меў месца пасля паўстання 1863-1864 гг. Разам з закрыццём касцёлаў перапыняліся і іх музычныя традыцыі.


Касцёл св. Станіслава ў Магілёве


Касцёл і кляштар кармелітаў у Глыбокім, 1878 г.

*Пры падхыхтоўцы выкарыстаны матэрыялы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі.*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

**Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?**

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# От слов к делу: реализация новогодних планов

**Для многих из нас новый год ассоциируется с периодом обновления, жизни с чистого листа. Возможно, именно поэтому почти 45% людей во всём мире в канун нового года с таким рвением загадывают желания и строят планы о том, что хотят получить или чего достигнуть в новом году.**

**Марина Ткач**, *психолог*



Сейчас, когда новогодние и рождественские праздники позади, утихла праздничная суета, перед нами возникает тот самый, порой достаточно внушительный список планов и желаний нового года.

Обращаясь к цифрам, скажу, что 24% из тех, кто строил грандиозные планы на жизнь в новом году, бросают их реализацию уже в первые недели января. При этом всё сопровождается чувством вины за свою слабохарактерность, недисциплинированность и неумение осуществить задуманное, появляется сожаление, опускаются руки, а планы и мечты продолжают оставаться всего лишь очередным списком нашей жизни.

Согласитесь, перспектива не очень радостная…

Чтобы подобного не происходило или происходило гораздо реже, стоит помнить о следующем:

1 **Меньше мечтайте, больше действуйте.** Мы не живём в сказочном или волшебном мире, где всё решается силой мысли или по взмаху волшебной палочки. Воплощение желаемого в жизнь требует от нас усилий, порой максимальных усилий, иногда даже каких-то жертв. Но чего не сделаешь ради мечты, верно?

2 **Дробите цель на более мелкие задачи.** Если мы пытаемся воплотить в жизнь сразу все или даже несколько планов, то, скорее всего, на пути выполнения каждого из них нас настигнет неудача. Мы начнем испытывать сильный дискомфорт и разочарование, а желание пробовать снова закономерно сойдет на нет. Поэтому лучше и правильнее выбирать одну задачу и выполнять ее на протяжении дня, недели или месяца. Не стоит переживать, что вы можете не успеть осуществить весь свой список планов. Концентрируясь на чём-то одном, вы быстрее достигнете цели, и у вас останется время на все последующие.

3 **Планируйте конкретно.** Под "конкретным планированием" я имею в виду, что вы должны не просто поставить себе цель, к примеру, похудеть (для женской аудитории это всегда актуально), а сделать это, во-первых, максимально точно – похудеть на пять кг, а во-вторых, чётко расписать, спланировать поэтапно, как вы будете идти к достижению этой цели. Например, запишитесь в спортзал, скорректируете стиль питания, измените режим дня и т.д. Вполне естественно, что нам хочется всего и сразу, но, как я уже говорила, так не происходит. Большие успехи складываются из маленьких побед. Главное – не обесценивать свои маленькие победы!

4 **Приготовьтесь к сложностям.** Нечасто все наши планы сбываются так, как мы этого хотим и ожидаем. Не следует себя винить за то, если что-то из спланированного пошло не так или вы не смогли выполнить вовремя какой-либо пункт вашего списка. Неудачи случаются со всеми, и это нормально. В такой ситуации хорошо иметь в запасе так называемый "план Б", где вы продумайте, как вы будете поступать в такой ситуации.

5 **Поделитесь своими планами.** Когда мы рассказываем о своих планах другим людям, это делает нас более ответственными перед самими собой. Поэтому стоит поделиться своими новогодними решениями с теми, чьё мнение для вас значимо. С другой стороны, поделившись своими планами с кем-то, вы получаете поддержку в лице этого человека. Наличие надёжного плеча рядом – важная составляющая движения вперёд и к цели в том числе.

6 **Внутренний баланс.** Все мы так или иначе мечтаем, планируем и стремимся к вполне материальным вещам. Кто-то хочет новую машину, кто-то квартиру, ремонт, новую шубу, отдых на море… Список бесконечен.

Но не стоит забывать во время реализации новогодних планов о своем эмоциональном и духовном состоянии. Обязательно найдите время на общение с близкими, на посещение костёла, на молитву, на общение с людьми, которые вас духовно обогатят, старайтесь быть более спокойными, реже срываться на родных и близких, быть более мудрыми.

Вот увидите: давая себе передышку такого плана, вы не только не отстанете от намеченного графика реализации задуманного, а еще с большими силами приступите к делу.

Успехов!



# Біскупы заклікаюць Джо Байдэна да ядзернага раззбраення



**Амерыканскі епіскапат заклікаў Джо Байдэна зрабіць ядзернае раззбраенне прыярытэтам свайго прэзідэнцтва і ініцыяваць працягненне тэрміну дзеяння дамовы аб скарачэнні колькасці ядзерных боегаловак.**

Старшыня Камітэта справядлівасці і міру Канферэнцыі Біскупаў ЗША, арцыбіскуп Дэвід Дж. Малой накіраваў афіцыйную просьбу прадоўжыць двухбаковую дамову паміж Масквой і Вашынгтонам і прыняць далейшыя меры па паступовым раззбраенні краін, якія валодаюць зброяй масавага знішчэння гэтага тыпу.

8 красавіка 2010 г. Расія і ЗША падпісалі дамову New START, у якой абавязваліся скараціць свой ядзерны арсенал і ўтрымлівацца яго на значна ніжэйшым ад часоў халоднай вайны ўзроўні. Гаворка ішла аб скарачэнні колькасці ядзерных боегаловак прыблізна на 30%. Прайшло 10 гадоў, і 5 лютага 2021 г. дамова завяршае сваё дзеянне. Абедзве краіны яшчэ не праявілі гатоўнасці яе падоўжыць.

Прадстаўнік епіскапату лічыць гэта "прыярытэтным" пытаннем, якое заключаецца ў мінімізацыі рызыкі прымянення ядзернай зброі. Паводле арцыбіскупа Малой, пагадненне трэба разумець як крок да поўнага ядзернага раззбраення ўсіх краін. Іерархія чакае такіх дзеянняў ад новага Прэзідэнта ЗША Джо Байдэна.

З пачатку свайго пантыфікату ў 2013 г. Францішак настойліва рэкамендуе ўсім краінам, якія маюць ядзерную зброю, скараціць гэты тып арсенала. Яго заклік прагучаў асабліва сімвалічна ў 2019 г., падчас падарожжа па Японіі.

Папа пераконвае, што вучэнне Касцёла аб ядзерным раззбраенні рэальна. Не можа быць, каб адна краіна раззброілася, а другая – не, асабліва калі паміж імі існуе палітычная напружанасць. Касцёл аддае перавагу калегіяльнаму і калектыўнаму падыходам, заклікаючы ўсе краіны, якія валодаюць ядзернай зброяй (ЗША, Расію, Вялікабрытанію, Францыю, Кітай, Індыю, Пакістан, Паўночную Карэю, Ізраіль), супольна ўзяць на сябе абавязацельствы па скарачэнні свайго арсенала.

*vaticannews.va*

# Малітва аб еднасці хрысціян адбылася ў Віцебскай катэдры

**Экуменічная малітва з удзелам прадстаўнікоў розных хрысціянскіх канфесій адбылася ў Віцебскай катэдры 19 студзеня 2021 года.**

**Аксана Нядвецкая**, *тэкст;*
**Анатоль Бандарчук-Вошлаў,** *фота*



Каталіцкі Касцёл на гэтай сустрэчы прадставілі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч і канцлер Віцебскай дыяцэзіі ксёндз канонік Віктар Місевіч. У набажэнстве прынялі ўдзел айцы Беларускай грэка-каталіцкай царквы, прапаведнік лютэранскай супольнасці і прадстаўнік міжнароднай хрысціянскай асацыяцыі "Гедэон", а таксама вернікі названых канфесій.

Ва ўступным слове кс. Віктар Місевіч адзначыў, што ў гэтым годзе, прысвечаным св. Юзафу, трэба асабліва маліцца аб ласцы прабачэння і згоды, а таксама імкнуцца ўзрастаць у камуніі разам з Хрыстом і нашымі братамі і сёстрамі, якія шукаюць адзінства.

Падчас набажэнства ўдзельнікі выканалі гімн да Духа Святога і прачыталі малітву паяднання. Затым адбылася літургія Божага Слова.

Пасля чытання Евангелля паводле св. Яна ў запрошаных прадстаўнікоў канфесій была магчымасць звярнуцца да вернікаў з прамовай.

Падчас свайго выступлення айцец грэка-католік Дзмітрый Грышан вярнуўся да словаў апостала Яна пра галінкі вінаграднай лазы і адзначыў, што "з'яднанне галінак у вінаграднай лазе адбудзецца, калі мы самі будзем з'яднаны з Хрыстом".

Прапаведнік Віцебскай лютэранскай супольнасці свв. Пятра і Паўла Максім Кійко звярнуў увагу, што сустрэча адбываецца ў складаны час, таму важна, каб людзі, вымушаныя з-за пандэміі насіць маскі, захоўваць дыстанцыю і ізалявацца, не забываліся дапамагаць адзін аднаму.

Марк Авілін, прадстаўнік міжцаркоўнай супольнасці хрысціян "Гедэон", якая займаецца распаўсюджваннем бясплатных экзэмпляраў Бібліі па ўсім свеце, прывёў словы з Евангелля: "Усялякае валадарства, якое падзялілася само ў сабе, спустошаецца" (пар. Лк 11,17). "Таму нам, хрысціянам, трэба не раздзяляцца паміж сабой, а ўзрастаць у любові да Бога і адзін да аднаго", —дадаў прамоўца.

Алег Буткевіч, рымакаталіцкі біскуп і гаспадар сустрэчы, звярнуўся да ўдзельнікаў набажэнства апошнім. Пастыр Касцёла нагадаў, што Езус Хрыстус прыйшоў на гэты свет, каб вярнуць страчанае пасля першароднага граху адзінства з Богам. "Еднасць з Богам дазваляе трываць у еднасці з блізкімі, без еднасці з Богам немагчыма еднасць народа паміж сабой", — адзначыў біскуп Віцебскі.

Затым адбыўся абрад запальвання свечак, які нагадаў прысутным пра місію хрысціян быць святлом свету. Пасля гэтага ўдзельнікі набажэнства памаліліся "Ойча наш" і перадалі адзін аднаму знак супакою. Біскуп Алег блаславіў прысутных і падзякаваў за супольную малітву.



# “Не пераставаць спадзявацца на Бога”...

## Ліст св. Францішка Ксаверыя

**Гэта адзін з апошніх лістоў Францішка Ксаверыя, які ён напісаў на выспе Шанчуань, дзе праз месяц з паловай адышоў да Пана.**



На гэты востраў ён прыбыў з намерам трапіць у Кітай, каб абвяшчаць там хрысціянскую веру. У лісце Ксаверый не толькі апісвае акалічнасці свайго жыцця ў месцы, якое стане яго апошнім прыстанкам, але, дзелячыся разважаннямі і марамі аб місіі, адчыняе нам сваё сэрца апостала Хрыста.

***Францішку Пэрэсу ў Малакку***

Па міласэрнасці і дабрыні Бога, нашага Пана, карабель Дыега Пэрэйры і ўсе мы, хто плыў на ім, шчасліва прыбылі ў гавань Санчао (Sanchoâo – Санцыян або Шанчуань), дзе сустрэлі шмат іншых гандлёвых караблёў. Гэтая гавань знаходзіцца за трыццаць лігаў ад горада Кантао (Cantâo – Кантон або Гуанчжоў). Шмат купцоў з Кантао прыязджаюць сюды, у Санчао, каб гандляваць з партугальцамі. Партугальцы з руплівасцю размаўлялі з імі, каб даведацца, ці захоча мяне ўзяць які-небудзь купец з Кантао. Усе выбачаліся, кажучы, што паставілі б жыццё і маёмасць пад вялікую рызыку, калі б губернатар Кантао даведаўся, што яны прывезлі мяне з сабой. І праз гэта яны ніякім коштам не хацелі забраць мяне на сваіх караблях у Кантао.

Спадабалася Богу, Пану нашаму, каб адзін годны чалавек, які жыве ў Кантао, прапанаваў узяць мяне за дзвесце крузадо ў невялікую лодку, у якой не было б іншых маракоў, акрамя яго сыноў і слуг. Каб ад маракоў губернатар Кантао часам не даведаўся, што за купец мяне прывёз. Далей ён прапанаваў схаваць мяне ў сваім доме на тры-чатыры дні і аднойчы раніцай да світання адвезці пад браму горада з маімі кнігамі і багажом, каб я мог адразу пайсці адтуль у дом губернатара і расказаць яму, што мы скіроўваемся туды, дзе знаходзіцца кітайскі імператар, і паказаць яму ліст, які мы атрымалі ад Яго Эксцэленцыі біскупа для імператара Кітая. А таксама расказаць, што мы пасланыя Яго Высокасцю абвяшчаць Божы закон.

Паводле таго, што кажуць нам жыхары гэтай зямлі, нас могуць чакаць дзве небяспекі: па-першае, чалавек, што нас бярэ, як толькі яму заплацяць дзвесце крузадо, пакіне нас на якой-небудзь бязлюднай выспе альбо кіне нас у мора, каб пра справу не даведаўся губернатар Кантао. Па-другое, калі ён адвязе нас у Кантао і мы трапім да губернатара, ён загадае нас катаваць альбо пасадзіць у турму, бо такая гэта дзіўная рэч. А ў Кітаі існуе мноства забаронаў: кожны чалавек без імператарскага пропуску павінен явіцца туды, таму што імператар катэгарычна забараняе чужынцам уваходзіць у ягоную зямлю без яго дазволу. Акрамя гэтых дзвюх небяспек, ёсць іншыя, значна большыя, якія не датычаць мясцовых жыхароў і пра якія вельмі доўга апавядаць, аднак я не абміну некаторыя з іх.

Першая – перастаць спадзявацца. І давяраць толькі міласэрнасці Бога, бо менавіта дзеля Яго любові і служэння мы збіраемся абвяшчаць Ягоны закон і Езуса Хрыста, Яго Сына, нашага Адкупіцеля і Пана, як Ён добра ведае. Паколькі ў Сваёй святой міласэрнасці Ён даў нам гэтыя жаданні, не давяраць Яго міласэрнасці і моцы цяпер, з прычыны небяспек, у якіх мы маглі б сябе ўбачыць дзеля Яго служэння, – значна большая небяспека (бо калі будзем служыць Яму больш, Ён абароніць нас ад небяспек гэтага жыцця), чым зло, якое могуць учыніць нам усе ворагі Бога, бо без Божай волі і дазволу д’яблы і іх слугі не могуць нанесці нам ніякай шкоды.

І мы таксама павінны ўмацаваць сябе словам Пана, Які кажа: “Хто любіць жыццё сваё ў гэтым свеце, загубіць яго, а той, хто загубіць жыццё сваё дзеля Бога, знойдзе яго”. Гэта адпавядае таму, што Хрыстус наш Пан таксама кажа: “Хто паклаў руку на плуг і азіраецца назад, не падыходзіць да Валадарства Божага”.

Мы, разглядаючы гэтыя небяспекі для душы, значна большыя, чым для цела, лічым, што надзейней і бяспечней будзе прайсці праз пагрозы для цела, чым патрапіць у духоўную небяспеку перад Богам. Такім чынам, мы напоўненыя рашучасцю адправіцца ў Кітай любым спосабам. Я спадзяюся на Бога, нашага Пана, што вынік нашага падарожжа будзе паявлічвацца нашай святой верай незалежна ад таго, наколькі ворагі і іх слугі пераследуюць нас, бо “калі Бог за нас, хто возьме верх над намі!?”

Калі карабель адправіцца з порта Санчао ў напрамку Малакі, маю надзею ў Богу, Пану нашым, што панясе ён вестку, як нас прынялі ў Кантао, бо з Кантао ў гэты порт заўсёды ідуць лодкі, праз якія я змагу напісаць, што мы перажылі і што зрабіў нам губернатар Кантао.<…>

Калі мы прыбылі ў Санчао, то пабудавалі касцёл. І я служыў Імшу кожны дзень, пакуль не захварэў на ліхаманку. Хварэў пятнаццаць дзён. Цяпер дзякуючы міласэрнасці Божай здароўе сваё аднавіў. Не бракавала і духоўнай працы, такой як слуханне споведзяў, наведванне хворых і прымірэнне ворагаў. Зараз я не ведаю, што вам яшчэ сказаць, акрамя таго, што мы цвёрда пастанавілі выправіцца ў Кітай. Усе кітайцы, якіх мы бачылі, я маю на ўвазе паважаных купцоў, выказваюць радасць і жаданне, каб мы прыбылі ў Кітай, бо ім здаецца, што мы прыносім закон, запісаны ў кнігах, які будзе лепшы за іхні, альбо таму, што ім даспадобы ўсё новае. Яны паказваюць, што ім усім вельмі прыемна, але ніхто не хоча ўзяць нас праз небяспеку, якая можа іх напаткаць.<…>

Я кожны дзень чакаю кітайца, які павінен прыехаць з Кантао і забраць мяне з сабой. Няхай спадабаецца Богу, каб ён з’явіўся, як мне гэтага хочацца, бо ў тым выпадку, калі Бог гэтага не жадае, я не ведаю, што мне рабіць: ці выпраўляцца ў Індыю, ці ў Сяо (Siâo), каб там я мог далучыцца да пасольства, якое кароль Сяо накіроўвае да імператара Кітая. Я пішу вам гэта для таго, каб вы маглі паведаміць Дыега Пэрэйры, што, калі ён будзе ў Кітаі і знойдзе нейкі спосаб пісаць мне ў Сяо, няхай напіша, каб мы сустрэліся там ці ў іншым кітайскім порце. Падтрымлівайце цеснае сяброўства з Дыега Пэрэйрам як у Малацы, так і ў Індыі, даваючы яго перш за ўсё Богу, а затым дапамагаючы яму любым іншым чынам, бо ён надзвычайны сябар Таварыства.

Няхай Хрыстус, наш Пан, удзеліць нам сваю дапамогу і ласку. Амэн.

*З Санчао, сёння, дваццаць другога кастрычніка 1552 года. Цалкам твой у Хрысце, Francisco.*

**Да ліку благаслаўлёных Францыск Ксавэрый быў далучаны ў 1619 годзе, а ў 1622 абвешчаны святым у адзін дзень з Ігнацыем Лаёлам. З 1748 года святы Францішак Ксавэрый лічыцца апекуном Усходу, з 1927 г. – разам са св. Тэрэзай ад Дзіцятка Езуса – заступнікам місіянераў. Помнікі ў яго гонар усталяваныя амаль ва ўсіх краінах, куды ён прынёс веру ў Хрыста.**




Мапа місійных падарожжаў св. Францішка Ксаверыя




# Арцыбіскуп Кандрусевіч асвяціў касцёл у Мінску

**9 студзеня Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі на пенсіі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч здзейсніў урачыстае асвячэнне касцёла Святога Духа ў мікраараёне Чыжоўка ў Мінску.**

■ **кс. Ян Крэміс**, *тэкст;* **Віталь Паліневускі**, *фота*
***Catholic.by***

У літургіі прынялі ўдзел дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB, ксяндзы-прэлаты і канонікі, іншыя запрошаныя святары і кансэкраваныя асобы.

Будаўніцтва касцёла працягвалася восем гадоў. Бласлаўленне зямлі пад будову і вуглавога каменя адбылося 19 мая 2012 г. Пасвячэнне касцёла стала знакавай падзеяй як для самой сталічнай парафіі Святога Духа, так і для мясцовага Касцёла. З'явілася яшчэ адна святыня, якая стала месцам сустрэчы чалавека з Богам.

У гаміліі арцыбіскуп Тадэвуш нагадаў пра ролю і значэнне сямі сакрамантаў, якія цэлебруе Касцёл, а таксама параўнаў асвячэнне будынка касцёла з хростам чалавека. Дзіця нараджаецца, але хрост распачынае яго духоўны рост і сталенне. Праз абрад асвячэння касцёл стаў сакральным будынкам, святыняй для цэлебрацыі святых сакрамантаў і малітвы, месцам, дзе народ Божы будзе ўзрастаць у пабожнасці і святасці.

Напрыканцы літургіі арцыбіскуп падзякаваў усім, хто прычыніўся да пабудовы новага касцёла ў мікраараёне Чыжоўка, і ўручыў падзячную грамату з нагоды яго асвячэння.

Падчас Імшы прысутныя таксама маліліся за спачылага ксяндза-прэлата Юзафа Булькy ў адзінаццатую гадавіну смерці, якая выпала акурат на дзень асвячэння касцёла, пробашчам каторага з'яўляецца яго вучань – ксёндз-канонік доктар Ян Крэміс.

Словы ўдзячнасці ў адрас арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча і гасцей гучалі ад прадстаўнікоў парафіі. Выходзячы з новаасвечанай святыні, усе прысутныя атрымалі выдадзены з гэтай нагоды Апостальскі ліст Святога Айца Францішка Patris corde і салодкі пачастунак з выявай касцёла Святога Духа.






# Тэст пра Свята Ахвяравання Пана



**Ёсць хрысціянскія святы, пра якія вядома літаральна ўсё. Можна ў двух словах апісаць, што ж, уласна, адзначаюць вернікі. Каляды – Хрыстос нарадзіўся. Вялікдзень – Хрыстос уваскрос. А ў чым сэнс свята Ахвяравання Пана? З якімі падзеямі з жыцця Хрыста яно звязана? Праверце свае веды, прайдзіце новы тэст "Каталіцка Весніка".**

1 Калі ў Каталіцкім Касцёле адзначаецца свята Ахвяравання Пана?



**А.** 6 студзеня
**Б.** 2 лютага
**В.** 6 лютага

2 Свята Ахвяравання Пана нагадвае нам пра падзеі з жыцця Хрыста, а менавіта:



**А.** Успамінаецца хрост Пана Езуса
**Б.** Успамінаецца момант пакланення мудрацоў Хрысту
**В.** Успамінаецца прынясенне Дзіцятка Езуса ў святыню для выканання абраду ахвяравання, прадпісанага законамі Старога Запавету

3 Якое Евангелле паведамляе пра Ахвяраванне Пана?



**А.** Евангелле ад Лукі
**Б.** Евангелле ад Лукі і Мацвея
**В.** Ніводнае Евангелле пра гэта не паведамляе, ведаем з Традыцыі Касцёла

4 Як звалі чалавека, якому было прадказана Святым Духам, што ён не памрэ, пакуль не ўбачыць Месію?



**А.** Саламон
**Б.** Сімяон
**В.** Натанаэль

5 Праведны Сімяон звярнуўся да Найсвяцейшай Дзевы Марыі з прароцтвам. Пра што яно?



**А.** Пра тое, што Хрыстос уваскрэсне
**Б.** Пра тое, што Яе душу праб'е меч
**В.** Праведны Сімяон нічога не прарочыў

6 Кім была прарочыца Ганна, якая не адыходзіла ад храма?



**А.** Маці Дзевы Марыі
**Б.** Жонка Сімяона
**В.** Удава, якая служыла Госпаду пастом і малітваю



7 "Цяпер па слову Твайму, Пане, адпускаеш слугу Твайго ў супакоі..." Як называецца гэты гімн, і каму ён належыць?



**А.** Магніфікат
**Б.** Песня Сімяона
**В.** Песня Ганны

8 Якая іншая назва ў народзе свята Ахвяравання Пана?



**А.** Маці Божай Грамнічнай
**Б.** Зялёныя святкі
**В.** Маці Божай Сеўнай

9 Што асвячаецца ў Касцёле на свята Ахвяравання Пана?



**А.** Крэйда і Кадзіла
**Б.** Свечкі
**В.** Хлеб і вада

10 Як у праваслаўнай традыцыі называецца свята Ахвяравання Пана?



**А.** Стрэчанне
**Б.** Дабравешчанне
**В.** Сёмуха

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на стар. 16**

# Каляндар на люты

### 2 лютага – свята Ахвяравання Пана



У гэты дзень падчас Літургіі ўзгадваецца прынясенне Дзіцятка Езуса ў святыню для выканання абраду ахвяравання, прадпісанага законамі Старога Запавету. Такім чынам, ужо ў самым пачатку зямнога жыцця Збаўцы Бог сведчыць, што Езус прыйшоў у свет не парушыць закон, а выканаць яго. Калі Марыя з Юзафам прынеслі Дзіцятка Езуса ў святыню, Месія ўпершыню сустракаецца са сваім народам. Згодна з апавяданнем евангелістаў, першымі людзьмі, якія сустрэлі Пана, пазнаўшы ў маленькім Дзіцятку самога Хрыста, былі прарок Сімяон і старая ўдава па імені Ганна, якая няспынна прабывала ў святыні.

На пачатку святой Імшы ў гэты дзень адбываюцца працэсіі са свечкамі, падчас якіх спяваецца песня Сімяона: "Цяпер па слову Твайму, Пане, адпускаеш слугу Твайго ў супакоі. Бо вочы мае ўбачылі Тваё збаўленне, якое Ты падрыхтаваў перад аблічам усіх народаў. Святло на асвятленне паганаў і славу народа Твайго, Ізраэля".

Іншая назва – свята Маці Божай Грамнічнай. Грамнічная свечка таксама сімвалізуе Марыю – пакорную слугу Пана Бога, у душы якой гарэла святло веры, надзеі і любові. Свечкі, што асвячаюць у гэты дзень, называюць "грамнічнымі", бо іх запальваюць у час навальніцаў, каб апека Маці Божай ратавала ад небяспекі стыхіі. Запаленую грамнічную свечку таксама даюць у рукі чалавеку пры адыходзе з гэтага свету, каб Найсвяцейшая Панна Марыя прыняла яго душу ў неба.

### 3 лютага – успамін святога Блажэя, біскупа і мучаніка



Святы Блажэй з'яўляецца апекуном пры хваробах горла. Адна з легендаў гаворыць, як аднойчы маленькі хлопчык падавіўся косткаю, што засела ў горле і стала прычынаю моцнага ацёку. Хлопчыку пагражала ўдушэнне. Тады біскуп са спачуваннем дакрануўся да шыі хлопчыка і зрабіў над ім знак крыжа. І раптам хлопчык пачаў роўна дыхаць, ацёк зменшыўся, а потым зусім знік. Вестка пра незвычайнага лекара хутка разляцелася па ваколіцы, што было вельмі нязручна для рымскіх уладаў. Спачатку просьбамі, а потым катаваннем яны імкнуліся прымусіць біскупа адмовіцца ад Хрыста, але святы Блажэй не адмовіўся. Ён быў забіты мячом прыкладна ў 316 годзе. У дзень яго літургічнага ўспаміну асвячаюцца свечкі, якія называюцца "блажэйкамі". У час благаслаўлення святар, трымаючы ў руках дзве скрыжаваныя свечкі, моліцца: "Няхай Бог праз заступніцтва святога мучаніка Блажэя вызваліць цябе ад усялякіх хваробаў горла і ад усялякага зла".

### 5 лютага – успамін святой Агаты, панны і мучаніцы



Яна была дзяўчынай, якая, прагнучы захаваць чыстасць і вернасць Хрысту, вытрымала зневажанне публічным домам, турмой і катаваннямі, у тым ліку разарванне і адразанне грудзей. Яе падтрымлівалі малітвы і відзежы Святога Пятра.

Святая Агата прыняла мучаніцкую смерць у Катаніі, на Сіцыліі, каля 250 г. Праз год пасля яе смерці адбылося вывяржэнне вулкана Этна. Патокі лавы пагражалі знішчыць увесь горад, але яны спыніліся, калі жыхары Сіцыліі, просячы ў малітвах заступніцтва Агаты, паклалі на іх шляху вэлюм, што належаў святой.

Дзякуючы гэтаму цуду Агату пачалі лічыць апякункай, якая ахоўвае ад пажараў. У дзень успаміну св. Агаты благаслаўляюцца хлеб і вада. У малітве асвячэння прыпамінаецца, што св. Агата з'яўляецца асаблівао заступніцаю і апякункаю ў небяспецы пажару.

### 8 лютага – успамін св. Жазэфіны Бакіты, панны



Святая нарадзілася каля 1870 г. у Судане (Афрыка). Калі Жазэфіне было сем гадоў, арабскія гандляры выкралі яе з роднага дому і прадалі ў рабства. Ад перанесенага шоку дзяўчынка забылася сваё імя. Выкрадальнікі называлі яе "Бакіта", што па-арабску азначае "Шчаслівіца". Бакіта з дзяцінства павінна была цяжка працаваць, пакутуючы цялесна і духоўна. Пазней дзяўчынку прадалі італьянскаму консулу, і дзякуючы гэтаму здарэнню яна атрымала свабоду. У Венецыі Бакіта ўступіла ў законную супольнасць Сясцёр Міласэрнасці. Праз чорны колер скуры, нават ужо будучы законніцай, цярпела ад дыскрымінацыі. Святая Жазэфіна любіла паўтараць: "Будзьце добрымі, любіце Госпада, маліцеся за тых, хто не ведае Яго". Жазэфіна Бакіта памерла 8 лютага 1947 г. у Італіі. Папа Ян Павел ІІ беатыфікаваў яе, а ў 2000 г. кананізаваў.



### 11 лютага – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з Люрда



У гэты дзень Каталіцкі Касцёл успамінае Маці Божую Люрдскую і адначасова адзначае чарговы Сусветны дзень хворых, устаноўлены св. Янам Паўлам ІІ у 1992 г. у 75-ю гадавіну фацімскага аб'яўлення і ў 11-ю гадавіну замаху на жыццё самога Святога Айца.

Менавіта ў гэты дзень у святынях можна атрымаць сакрамант намашчэння хворых.

### 17 лютага – Папяльцовая серада



Папяльцовая Серада распачынае перыяд Вялікага посту, які доўжыцца 40 дзён. Традыцыйна ў гэты дзень адбываецца абрад пасыпання галоў вернікаў попелам, які з'яўляецца знакам жалобы і выражае смутак чалавека, што спазнаў няшчасце. Таксама святар, здзяйсняючы гэты абрад, прамаўляе: "Памятай, ты прах і прахам станеш" або "Навяртайцеся і верце ў Евангелле". Сам звычай пасыпання галоў попелам на знак жалю і пакуты вядомы ў многіх культурах і традыцыях. Мы знаходзім яго як у Старажытным Егіпце і Старажытнай Грэцыі, так і ў індзейскіх плямёнаў. Таксама, вядома, і на старонках Бібліі, напрыклад, у Кнізе Ёны або Ёэля. Літургічная адаптацыя гэтага звычаю з'яўляецца, аднак, толькі ў VIII стагоддзі. Першыя сведчанні пра асвячэнне попелу вядомыя з X стагоддзя. У наступным стагоддзі Папа Урбан ІІ увёў гэты звычай як абавязковы ва ўсім Касцёле. Таксама з таго часу паходзіць традыцыя атрымання попелу да пасыпаня галоў вернікаў з пальмаў, пасвечаных у Пальмавую Нядзелю папярэдняга года. У Папялец абавязковым з'яўляецца строгі пост.

### 22 лютага – свята катэдры св. Пятра, апостала




Гэтае свята з'яўляецца ўспамінам факту, што св. Пётр Апостал прыбыў у Рым і быў біскупам лакальнай супольнасці хрысціян. Падчас супольных сходаў св. Пётр сядаў на месцы кіравання і адтуль навучаў. Месца, якое займае біскуп, па-грэчаску называецца "катэдра". Таму катэдра св. Пятра – гэта біскупскі трон, які займаў ён сам, а пасля яго яго наступнікі.

У Рыме захоўваецца біскупскі пасад, які сімвалізуе ўладу, перададзеную спачатку Пятру, а потым па чарзе ўсім яго наступнікам каля стырна Касцёла. Вялікі аўтарытэт, якім па волі Хрыста карыстаўся Пётр сярод дванаццаці апосталаў, гарантаваў таксама і яго наступнікам асаблівае месца сярод іншых біскупаў.

У гэты дзень вернікі асаблівым чынам моляцца за сённяшняга наступніка святога апостала Пятра – Папу, які з'яўляецца бачным кіраўніком Касцёла на зямлі і гарантам яго адзінства.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

## На люты прыпадаюць дні нараджэння і імяніны ў наступных святароў:

**10 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост)*;

**17 лютага** – імяніны адзначае **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост)*;

**18 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вадзім Прасяной SCJ** *(Паставы)*;

**25 лютага** – дзень нараджэння і імяніны адзначае **кс. Віктар Сініцкі SCJ** *(Шаркаўшчына)*;

**26 лютага** – імяніны адзначае **біскуп Віцебскі Алег Буткевіч**;

**27 лютага** – дзень нараджэння адзначае **а. Аляксандар Шаўцоў** *(Полацк)*;

**28 лютага** – імяніны адзначае **кс. Раман Мурзіч** *(Параф'янава)*.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

# Как подружиться со святыми?

**Независимо от того, являемся ли мы католиками с младенчества или пережили обращение уже в зрелости, все мы порой переживаем оставленность и сухость веры. В такие моменты дружба со святыми может дать нам толчок, помочь побороть одиночество и вновь довериться Богу.**

■ **Джинни Юинг**, *рускатолик.рф*

Искренне жить христианской жизнью сегодня становится всё труднее. Нашему христианскому мировоззрению противодействует рост секуляризма. И если мы сознательно и регулярно не выделяем моменты для уединения и молитвы, мы потеряем веру, даже не понимая, почему и как это произошло.

Но святые каким-то образом пробуждают нас. Нас вдохновляют драматическое обращение апостола Павла и тихая верность святого Иоанна Богослова. Нас привлекает авторитет святого Льва Великого и отвага солдата, ставшего воином Христа, святого Мартина Турского. Наши сердца наполняются состраданием к самым убогим и отверженным, когда мы видим, с какой любовью и милосердем заботилась о них святая Мать Тереза.

Когда мы читаем о святой Елизавете Венгерской, мы желаем сделать что-то для бедных по её примеру. А неустанная работа по обучению и катехизации итальянских иммигрантов святой Франчески Кабрини напоминает нам, что это также и наша работа.

Труд, к которому мы призваны, это труд святости. Но нам необходимо наследие святых, чтобы укрепить веру в то, что мы тоже призваны к чему-то большему, чем уступить суете мира.

Так как же нам подружиться со святыми?

### Начните с важной для вас даты

Если вы ещё не нашли единомышленников в числе святых, посмотрите в календаре, чей праздник или памятник Церковь отмечает в день вашего рождения или в близкие к нему дни. Также можно обратить внимание и на другие вехи, например, на годовщину свадьбы или на дату смерти любимого человека. Выберите одного или несколько святых, к которым вы чувствуете особую симпатию.

### Узнайте больше о жизни этого святого или святых

Элементарный поиск в Интернете даст вам кладезь информации о святых, с которыми вы хотите подружиться. Если это не какой-то безвестный человек, скорее всего, вы сможете найти книги или, по крайней мере, справочную информацию, которая даст вам более полное представление об испытаниях, которые преодолел этот святой, и о том, как именно он это сделал.

### Найдите новенны, литании и молитвы

Начало отношений часто кажется неловким. Вы можете продолжить знакомство с выбранным святым, вознося традиционные молитвы, предлагаемые Церковью. Позже вы, вероятно, перейдёте к более свободному и естественному разговору с ним.

### Носите медальон с изображением святого

Ношение освящённого медальона "вашего" святого – это личное и постоянное напоминанием о том, что мы должны стремиться к добродетели в нашей повседневной жизни. Я часто бессознательно тереблю такой медальон, когда я взволнована или на грани того, чтобы разразиться гневом на моих детей, и замечаю, как на смену этим чувствам вдруг приходит ничем не объяснимое спокойствие. Мы не всегда живём так, как будто нас сопровождают святые, хотя в глубине души мы знаем, что они с нами. Ношение медальона может помочь нам в духовном путешествии, даже если речь идёт о каком-то краткосрочном устремлении или просьбе о помощи.

### Углубляйте отношения

Дружба основана на взаимности. Важно перейти от поверхностного знакомства к углублению любви. Поначалу это может показаться странным, поскольку выбранный вами святой – человек, физически удалённый от вас. Но со временем вы перейдёте от просьбы к благодарности. И "ваш" святой всегда, всегда будет вести вас к Сердцу Иисуса, вашей Истинной Любви.





# Как Католическая Церковь относится к демократии?

Учение Церкви о демократии содержится прежде всего в энциклике Centesimus annus. "Церковь, – гласит энциклика, – ценит демократическую систему в той мере, в какой она обеспечивает участие граждан в политическом выборе, гарантирует им возможность избирать и контролировать своих правителей или смещать их мирным путём, когда это представляется уместным. Поэтому Церковь не может потворствовать формированию небольших правящих группировок, которые в собственных интересах или ради идеологических целей узурпируют государственную власть. Подлинная демократия возможна только в правовом государстве и на основе правильного представления о человеке. Она требует условий, при которых как индивидуум мог бы развиваться, получая образование и воспитание в духе истинных идеалов, так и "субъектность" общества возрастала бы вследствие создания структур участия и совместной ответственности" (46).

Согласно социальному учению Церкви, ценностью является подлинная демократия, то есть такая форма государственного управления, при которой уважается достоинство каждой человеческой личности, а целью и критерием принимаемых решений является общее благо. Если вокруг этих ценностей нет согласия всего общества, то теряется сам смысл демократии. Одним из рисков современной демократии является этический релятивизм, при котором отрицается существование объективных критериев для иерархии ценностей.

Существует ошибочное понимание демократии как системы, при которой достаточно большинства голосов, чтобы вынести суждение о допустимости или недопустимости того или иного поступка. Приведём в пример законы о легализации абортов. В энциклике "Евангелие жизни" Папа Иоанн Павел II писал: "Когда парламентское или общественное большинство делает допустимым по закону, пускай лишь при некоторых условиях, убийство еще не рождённой человеческой жизни, то разве оно тем самым не принимает "тиранического" решения по отношению к самому слабому и беззащитному человеческому существу? Совесть всего мира справедливо содрогается перед лицом преступлений против человечества, ставших горьким опытом нашего века. Разве эти преступления перестали бы быть преступлениями, если бы совершались не по приказу лишённых угрызений совести диктаторов, а законно, по общему согласию большинства?" (70).

И ещё: "На самом деле демократию не надо переоценивать, превращая её в замену нравственности или "панацею" против безнравственности", – утверждает святой Папа Войтыла. – "Ценность демократии рождается или умирает вместе с ценностями, которые она выражает и поддерживает".

В основе подлинной демократии не могут лежать временные и преходящие суждения большинства. Она основана на признании объективного нравственного закона, вписанного в сердце человека. Именно этот естественный закон должен быть критерием для гражданского законодательства.

В той же энциклике "Евангелие жизни" Иоанн Павел II поясняет: "Если бы в результате трагического глушения коллективной совести скептицизм подверг сомнению сами фундаментальные принципы нравственного закона, это пошатнуло бы самые основы демократического устройства, так что оно превратилось бы всего лишь в механизм эмпирического регулирования различных противоречивых устремлений" (70). "В таком положение демократия легко становится пустым словом", - подводит итог Папа Войтыла.

В любом случае необходимо помнить, что в демократическом государстве большинство создаёт законность, но никак не нравственность. Часто речь идёт только о "трагической подделке правозаконности", констатирует тот же Папа Иоанн Павел II, в то время как "демократический идеал – заслуживающий этого названия только тогда, когда признаёт и охраняет достоинство каждой личности, – предан в самой основе: "Можно ли говорить о достоинстве каждой личности, когда разрешается убивать самую слабую и самую невинную из них? Во имя какой справедливости людей подвергают самой неправедной дискриминации, признавая одних достойными защиты, а другим отказывая в этом достоинстве?" (EV 20).

Согласно социальному учению Церкви, государственная администрация должна быть нацелена на служение гражданам, а политические партии призваны содействовать широкому участию и всеобщему доступу к общественной ответственности. Посредством партий граждане должны иметь реальную возможность участвовать в формировании политических решений. Инструментом для политического участия является также референдум как прямая форма доступа к политическим решениям (ср. Компендиум социального учения Католической Церкви, 413).

Одним из главных инструментов демократического участия является информация. В Своде социального учения Церкви говорится о препятствиях для реализации права на объективную информацию: это контроль над СМИ, сосредоточенный в руках немногих людей или групп. Демократические ценности могут подвергаться риску, когда "трудности, внутренне присущие коммуникации, усугубляются из-за идеологии, из-за стремления к прибыли и политическому контролю, из-за соперничества и конфликтов между группами, из-за иных социальных язв" (там же, 416).

Таким образом, отношение Католической Церкви к демократии зависит от того, насколько демократия соответствует перечисленным выше условиям.

***Ольга Сакун***
*Град Ватикан*

## Віншуем біскупа Алега!

*Віншуем **біскупа Алега Буткевіча** з гадавінай біскупскага пасвячэння!*

*Ваша Эксцэленцыя! Шаноўны біскуп Алег!*

*Шчыра віншуем Вас з 7-годдзем біскупскага служэння, якое пачалося 18 студзеня 2014 года! Няхай Пан Бог адорыць Вас патрэбнымі ласкамі для плённай працы на карысць Віцебскай дыяцэзіі! Моцнага здароўя Вам, мудрых рашэнняў, мэтанакіраванасці, невычэрпнай любові да Бога і людзей, якіх сустракаеце на сваім шляху! Няхай штодзённае выкананне абавязкаў біскупа і святара набліжае Вас да Пана Бога, прыносіць радасць і супакой!*

*Дзякуем за цікавыя разгорнутыя казанні, якія прамаўляеце ў нашай святыні! Молімся за Вас!*

***З вялікай удзячнасцю, святары, сёстры законныя, вернікі катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага***

## Хвала Хрысту!

*"Маргарытка" парафіі Перамянення Пана ў Германавічах віншуе паважанага **біскупа Алега Буткевіча** са святам Божага Нараджэння і з Новым годам! Моцнага Вам здароўя, поспехаў у працы, дароў Духа Святога, апекі Панны Марыі і шматлікіх ласкаў на Божай ніве, радасці штодзённай!*

## Самыя сардэчныя пажаданні!

*Паважанаму **ксяндзу Юрыю Жаўнеровічу** з нагоды Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні.*

*Няхай здароўе будзе моцным, у сэрцы няхай заўсёды гасцяць спакой і дабрыня, а энергія спадарожнічае на працягу доўгіх гадоў жыцця! Жадаем, каб Анёлахоўнік моцна трымаў Вас за руку і дапамагаў у розных складаных жыццёвых сітуацыях.*

*Дзякуем за добрае сэрца, за мудрыя парады і за тое, што Вы з намі! Хай збываюцца нашы добрыя словы, каб Вас і зімой лашчыла сонца!*

***Вернікі Замошскай парафіі***

## Шчырыя віншаванні!

*Дасылаем свае шчырыя віншаванні **ксяндзу Юрыю Жаўнеровічу** з нагоды Дня нараджэння!*

***Светлых ранкаў, яснага сонца,***
***Божай любові і ласкі бясконцай!***
***Шчодрасці жніўня, неба блакіту,***
***Вернікаў шчырых,***
***З душою адкрытай!***
***Хай плённая будзе Ваша дарога!***
***Моцы і сілы ад Духа Святога!***
***У кожным моманце***
***Мы помнім пра Вас і Ваша цяпло,***
***Няхай Вас Бог узнагародзіць***
***І ў жыцці дае дабро!***

***Супрацоўнікі Ахрэмаўскага сельсавета***

## Хвала Хрысту!

*Паважанаму **ксяндзу Юрыю Жаўнеровічу** з нагоды Дня нараджэння (31 студзеня) дасылаем шчырыя віншаванні ад усёй нашай супольнасці!*

*Дзякуем Вам, шаноўны ксёндз Юрый, што, выконваючы волю Хрыста, Вы імкняцеся наблізіць нас да Пана Бога, напоўніць нашыя сэрцы Божай любоўю і гармоніяй!*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, цярплівасці і нястомнасці ў святарскім служэнні. Няхай Нябесны Айцец шчодра ўзнагародзіць Вас за ўсе малітвы, за прыклад пабожнасці, за цярплівасць і спагаду, адорыць Вас усімі неабходнымі ласкамі! Няхай Дух Святы памнажае Вашу мудрасць і падтрымлівае Вас у цярпенні!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне з Ахрэмаўцаў (Браслаўскі р-н)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Шаноўны галоўны рэдактар "Каталіцкага Весніка" ксёндз Віктар Місевіч, паважаныя супрацоўнікі рэдакцыі! Мы, пастаянныя падпісчыкі і ахвярадаўцы, шчыра віншуем Вас з нагоды свята Божага Нараджэння і з Новым 2021-м годам!*

***Ад чыстага сэрца здароўя жадаем,***
***Хай маленькі Езус Вас блаславіць,***
***Хай заўсёды сыходзіць на Вас Святы Дух,***
***А вера ў Бога нясе святло і дабро людзям!***

*Няхай міласэрны Бог узнагародзіць за ўсё, што Вы робіце на Божай ніве, за Ваш аптымізм і любоў да людзей! Апекі Найсвяцейшай Панны Марыі для Вас і Вашых родных!*

## Хвала Хрысту!

*Паважаны **ксёндз Віктар Місевіч**!*

*Віншую Вас са святам Божага Нараджэння і Новым годам!*

*Моцнага Вам здароўя, Божага блаславення ва ўсіх Вашых справах, а таксама здароўя і Божых ласкаў для ўсіх супрацоўнікаў рэдакцыі газеты!*

***Марыя Канецкая, г. Маладзечна***

## Хвала Хрысту!

*Мы, вернікі парафіі Перамянення Пана ў Германавічах і капліцы Св. Мікалая ў в. Сталіца, дзякуем супрацоўнікам газеты "Каталіцкі Веснік" за цікавыя і змястоўныя матэрыялы, якія друкуюцца ў газеце. Заўсёды чакаем новы нумар газеты і з цікавасцю чытаем пра Касцёл і яго справы.*

*Шчыра віншуем усіх супрацоўнікаў газеты, асабіста **ксяндза Віктара Місевіча**, са святам Божага Нараджэння і з Новым 2021-м годам!*

*Моцнага здароўя, поспехаў у працы, радасці і душэўнага супакою! Хай кожны дзень будзе напоўнены людской дабрынёй і асвечаны Божай ласкай!*

## Віншуем!

*Віншуем са святам Божага Нараджэння і Новым годам **рэдакцыю "Каталіцкага Весніка"**, галоўнага рэдактара **ксяндза Віктара Місевіча**, нашага **біскупа Алега Буткевіча**, а таксама святароў, якія служылі ў парафіі Святых Пятра і Паўла: **Зянона Шчонхара**, **Альфрэда Пяхоту**, **Юзафа Блажэя**, **Віталя Гальца**, **Юрыя Жаўнеровіча**, **Генадзя Ляўкова** і нашага шаноўнага **ксяндза Івана Кароткіна**.*

*Газету "Каталіцкі Веснік" мы выпісваем шмат гадоў. Сустракаем яе як дарагую госцю ў дом, чытаем і перачытваем, а потым доўга разважаем над цудоўнымі змястоўнымі тэкстамі.*

***Вернікі друйсвяцкага касцёла (Браслаўскі р-н)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*15-16 снежня ў парафіі Перамянення Пана аг. Германавічы, у касцёле Міхала Арханёла в. Лужкі, у капліцы св. Шарбеля ў в. Зорка, у капліцы св. Мікалая ў в. Сталіца адбыліся рэкалекцыі да свята Божага Нараджэння. Божае слова, якое вельмі кранула кожнага з нас, абвясціў **ксёндз Алег Зямчонак**. Выказваем шчырую ўдзячнасць за сакрамант споведзі, асабліва за ўдзяленне сакраманту хворым.*

*Паважаны ксёндз Алег! Са святам Вас Божага Нараджэння і з Новым 2021-м годам! Жадаем ад усяго сэрца здароўя, моцы Духа Святога, апекі Найсвяцейшай Маці! Няхай Бэтлеемская Зорка заўсёды свеціць на Вашым святарскім шляху, а нованароджаны Езус будзе ў Вашым сэрцы, у думках і ў штодзённых справах!*

*Усяго добрага! Заставайцеся з Богам!*

***З павагай, парафіяне з в. Сталіца***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шчыра віншуем паважанага і любімага **ксяндза-дэкана Яна Пугачова** са святам Божага Нараджэння і адрасуем яму такія словы:*

***Мы ў гэта верым цвёрда,***
***Што нам ласкай Божай дан***
***Такі строгі і лагодны***
***Наш любімы ойча Ян.***

***Навучае нас маліцца***
***І Айчыну берагчы,***
***Умець радасцю дзяліцца***
***І ў бядзе дапамагчы.***

***Хай Вам неба пасылае***
***Любві Божай і святой.***
***Кожны дзень Ваш саграваае***
***Чалавечай дабратой!***

***Вернікі парафіі Перамянення Пана (в. Германавічы, Шаркаўшчынскі дэканат Віцебскай дыяцэзіі)***

## Паважаны ксёндз Славамір!



*Віншуем Вас з Божым Нараджэннем! Жадаем Вам шчаслівага свята, радасці, супакою. Няхай Пан Бог адорыць Вас патрэбнымі ласкамі, а Маці Божая хай ахіне сваім плашчом, анёлы і святыя няхай берагуць, дзе б вы ні былі!*

*Чакаем Вас заўсёды ў нашых касцёлах!*

***Удзельнікі руху "Апостальства дапамогі душам чысцовым" касцёлаў у Мёрах, Павяцці, Ідолце***

## Паважаны ксёндз Вячаслаў!



*Ад усяго сэрца віншуем Вас з вялікім святам – Нараджэннем Езуса Хрыста!*

*Няхай маленькі Езус дасць Вам здароўе, супакой, радасць і сапраўднае шчасце. Хай сцеражэ Вас Бог, Маці Божая няхай ахіне Вас патрэбнымі ласкамі, а Дух Святы лагодзіць Вашае сэрца і ахоўвае на Вашым нялёгкім шляху!*

*Дзякуем Пану Богу за Вас і Вам за тое, што Вы ёсць з намі!*

***Вернікі капліцы Забалоцце, Дзедзіна***

## Хвала Хрысту!

*Сардэчна віншуем з Днём нараджэння (8 студзеня) **ксяндза Яўгена Шымановіча**!*

*Шчыра жадаем Вам, ксёндз Яўген, шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, апекі Маці Божай, аптымізму, творчага запалу ў святарскім служэнні, трываласці ў пакліканні, моцнага здароўя! Дзякуем Вам за шчырасць, за адкрытасць сэрца, за цудоўную ўсмешку, за абвяшчэнне Добрай Навіны, якая напаўняе сэрцы верай, надзеяй і любоўю!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***





## Віншуем біскупа Алега Буткевіча з гадавінай біскупскай сакры!

**Ваша Эксцэленцыя!**
**Паважаны біскуп Алег!**

Сёння асаблівым чынам молімся і дзякуем Госпаду за дар Вашага паклікання, за Вашую ахвярную і праведную працу ў нашай Віцебскай дыяцэзіі.

Віншуем Вас і жадаем моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў паслузе на карысць Госпаду і людзям, штодзённай радасці, душэўнага супакою і аптымізму. Няхай Добры Гасподзь вядзе праз цяжкасці жыцця і біскупскай паслугі, удзяляючы патрэбныя ласкі для выканання даверанай місіі. Жадаем Вам заўсёды адчуваць блізкасць і моцную сувязь з Тым, Хто паклікаў і паставіў Вас на гэтае служэнне. Няхай шлях гэтага служэння будзе плённы і шчаслівы!

*З малітвай,*
*рэдакцыя і чытачы «Каталіцкага Весніка»*
*і сайта catholicnews.by*



**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

**Добры дзень, паважаная рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"! Віншую Вас са святам Божага Нараджэння і Новым 2021-м годам! Ад шчырага сэрца жадаю моцнага здароўя, бласлаўлення Пана Бога, апекі Маці Найсвяцейшай, дароў Духа Святога, радасці, цярплівасці і шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень! Вялікі дзякуй за дабро, якое ствараеце сваёй нястомнай працай і шчырым сэрцам для католікаў у справе паглыблення ведаў і веры на шляху да Пана Бога!**

Хачу падзяліцца ўспамінамі пра чалавека, які быў сведкам веры. Было гэта ў 2019-м годзе. Я тады жыла з сынам у Гомелі і часта хадзіла ў касцёл. У звычайныя дні людзей было няшмат, у асноўным – жанчыны. Часта прыходзіў у касцёл пажылы мужчына, ён ціха садзіўся і пабожна маліўся. Хадзіў з кіёчкам. Асабіста яго я не ведала, мы толькі віталіся пры сустрэчы. Але аднойчы пры выхадзе з касцёла ён расказаў вернікам, што доўгі час знаходзіўся ў ссылцы ў Архангельскай вобласці. Цяпер жыве з дачкой у Гомелі, сыны жывуць у Расіі. А сам ён родам з Лельчыц, нарадзіўся ў 1927-м годзе, завуць Мікалаем.

Калі я захварэла і ляжала ў бальніцы №1 г. Гомеля, то нікому з касцёла не паведамляла, каб не турбаваць. Са мной у палаце ляжалі чатыры жанчыны, мы пазнаёміліся. Я адна была каталічка. Ляжала ў ложку з ружанцам і ціха малілася, каб не перашкаджаць хворым. Да мяне часта прыходзілі сын з нявесткай, але ў той дзень я нікога не чакала. У ціхі час мяне паклікалі, жанчына з нашай палаты паведаміла: "Вас чакаюць, да Вас "кавалер" прыйшоў". Я з усмешкай прыняла гэты жарт, бо ведала, што сын сёння не прыйдзе. Са здзіўленнем убачыла ў калідоры Мікалая. Мы павіталіся, я не стала дапытвацца, як ён даведаўся, што я ў бальніцы. Крыху пагаварылі, і я вярнулася ў палату. Там я раскрыла пакецік, які Мікалай даў мне на развітанне, дастала слодычы і падзялілася імі з жанчынамі. А яшчэ ў пакеціку ляжала маленькая карычневая кніжачка "Ewangelle wedlug Sw. Jana". Жанчыны пачалі доўга прыпамінаць, хто з іх каталічкі.

Мікалай яшчэ месяцы два пахадзіў у касцёл, а потым паехаў на радзіму, у Лельчыцы. Адтуль ужо не вярнуўся, пайшоў да Бога. Я ўспамінаю яго як сапраўднага католіка.

Вечны адпачынак дай яму, Пане!

***Ванда Дзенісенка,***
*г. Жыткавічы*

# Мая першая сустрэча з немцам

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

**Я ўжо даўно на пенсіі (мне за 80 гадоў). Пішу рэдка, але прыйшло натхненне ўзяцца за пяро, каб паведаць пра сваю першую сустрэчу з немцам (твар у твар) у гады вайны.**

■ **Ванда Дзенісенка**, *г. Жыткавічы*

Было мне тады гады чатыры. Я не ведала, што такое вайна і хто такія фашысты. Нарадзілася я ў Заходняй Беларусі, на Браслаўшчыне. Калі мне былі два месяцы, мой тата пайшоў на вайну, у верасні 1939-га. А вярнуўся з вайны ў 1945-ым. Мама адна гадавала гэты час траіх дзяцей. У вёсцы Рудзі, дзе мы жылі, немцы з'явіліся ў 1943-м годзе. Яны адразу выганялі людзей з дамоў, забіралі харчы. У нас таксама забралі хату і зрабілі там лазарэт. А яшчэ там пасяліўся нямецкі афіцэр, урач-хірург. Забралі ў нас карову, як і ў іншых вяскоўцаў, і пагналі статак у м. Опса, паабяцаўшы жанчынам вярнуць кароў праз нейкі час. Жылі мы ў гумнах ці ў паўразбураных збудаваннях. Начамі было халодна, няўтульна. Дзеці плакалі і прасілі есці.

У адзін прыгожы летні дзень мая сястра Рэгіна, якой было 10-11 гадоў, павяла мяне і сваіх сяброваў у лес па ягады. З лесу мы вярталіся дарогай, што праходзіла ля нашай хаты. Сястра нарвала травы, каб занесці трусам, якія засталіся ў хлеве. Дзеці гуртом накіраваліся да хаты, але іх сустрэў ахоўнік, які стаяў у дзвярах цяперашняга шпіталю. Ён паклікаў урача, і той дазволіў пакарміць трусоў. Калі мы рушылі дамоў, немец нас затрымаў. Ён пайшоў у хату, вынес нейкі посуд і прымусіў дзяцей высыпаць туды ягады, а пустыя кубкі ставіць у радок на лаўцы. Калі ўсе высыпалі ягады, немец звярнуўся да мяне, бо я не аддала сваю шклянку, у якой было некалькі ягад. Ён не высыпаў з яе ягады, а паставіў на лаву ў радок з іншымі кубкамі. Затым прынёс цукар і напоўніў ім пустыя кубкі, а ў маю шклянку дасыпаў да ягад. Дзеці стаялі нерухома. Я ж захацела зайсці ў сваю хату, бо дзверы былі расчыненыя, ступіла радасна на парог, але немец затрымаў мяне. Я заплакала і вярнулася да сястры. Потым немец падышоў і забраў мяне, запытаў у сястры маё імя. Яна назвала – Ванда. Немец перамяніўся, ухапіў мяне на рукі, высока падкідваў, смяяўся і выкрыкваў: "Ванда Васілеўская!*". Я стала вырывацца, плакаць, але ён моцна трымаў мяне (не прычыняючы болю), вельмі смяяўся і ўсё паўтараў: "Ванда Васілеўская!". Ён быў у парадной форме, а не ў белым халаце як заўсёды. Я дзвюма далонямі пачала біць урача па твары. Але ён не звяртаў на гэта ўвагі, а бегаў па падворку і выкрыкваў маё імя. Калі ў мяне забалелі рукі, бо біла я з усёй сваёй дзіцячай сілы, немец апусціў мяне на зямлю, прыклаў руку да сваіх грудзей і прамовіў: "Драй кіндэр". Вартаўнік патлумачыў, што ў урача трое дзяцей. Потым мы з поўнымі цукру кубкамі вярнуліся дамоў. Сястра расказала маме пра сустрэчу з немцам. Маці забараніла сястры браць мяне кудынебудзь з сабой, а таксама падыходзіць да немцаў і набліжацца да сваёй хаты.

Жанчыны, якія жылі разам з намі ў гумне, супакойвалі маму, казалі, што многія ведаюць гэтага нямецкага ўрача, называюць яго добрым доктарам, бо ён выратаваў вясковага хлопца-падлетка, у якога быў прыступ апендыцыту, пачалася гарачка. Немец-хірург паспяхова зрабіў аперацыю, хлопец застаўся жыць. Доктар вельмі прасіў маці хлопца, каб яна нікому не расказвала пра ягоную дапамогу.

Праз нейкі час мама і іншыя вяскоўцы адправіліся ў Опсу, каб забраць кароў, якіх фашысты абяцалі вярнуць. Кароў сваіх ніхто не пабачыў, бо іх даўно пабілі на мяса, а страху нацярпеліся шмат.

Немец, выслухаўшы просьбу жанчын, раз'юшана затупаў нагамі і схапіўся за пісталет. Але ў гэты момант у камендатуру прывялі шмат людзей, і ў такой неразбярысе вяскоўкам даў Бог ласку ўцячы. У Опсе ад месцічаў жанчыны пачулі, што на днях прывезлі нейкага нямецкага ўрача і расстралялі. Вяртаючыся ў вёску, заўважылі, што вакол шпіталя (нашай хаты) няма немцаў, няма варты, дзверы і вокны расчыненыя, усё з дому вывезена. У вёсцы бачылі, як забралі ў наручніках урача-хірурга, якога потым расстралялі за дапамогу вясковаму падлетку. Невядома, хто данёс немцам. Людзі плакалі, маліліся, успаміналі добрыя ўчынкі ўрача, за якія ён аддаў сваё жыццё. Я таксама ўспамінаю цяпер гэтага чалавека, які нічога дрэннага мне не зрабіў. Я, мабыць, нагадала тады яму малых дзяцей, якіх ён пакінуў у Нямеччыне.

Вечны супакой дай яму, Пане!

*Ванда Васілеўская – польская пісьменніца (1905–1964)



# Веру малітве

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

Так склалася жыццё, што з малых гдоў мой бацька вучыў мяне малітве. Я была зусім малая, а мне ўжо падабалася глядзець у Евангелле, гартаць яго старонкі, дзе бачыла Езуса на крыжы, бачыла, як чалавек нясе крыж, ляжыць пад крыжам. Нічога не разумела. Малюнкі маленькія, чорна-белыя, а мне па душы яны. Я не ведала тады нічога, акрамя таго, што казаў бацька.

Цяпер я ўжо на пенсіі. Бога не пакідала ніколі. Памятаю, трэба ісці на працу, а ісці не магу: дрэнна, слабасць, ногі не ідуць. Падышла да іконы, памалілася і пакрочыла на працу... І куды немач дзелася?! Так было многа-многа разоў.

Цяпер вось маю хваробу вачэй. Быў выпадак: сцямнела ў вачах, муж мой стаў нейкі чорны, амаль не бачу яго. Баялася казаць яму пра гэта. Давай маліць Бога. І тут пасвятлела ў вачах, пачала бачыць радочкі малітвы. Малілася і другі дзень, і яшчэ. Потым убачыла літары, вярнуўся мой зрок.

Калі мне дрэнна, то запальваю свечку на стале, стаўлю святую ваду і кожны дзень малюся. Сам Бог сцеражэ. Хвала Яму навекі!

***Альдона Сіўко,***
*в. Забалоцце (Мёрскі р-н)*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**

**7 лютага 2021г.**
**V звычайная нядзеля**
***Мк 1, 29-39***

Езус прыходзіць у дом апостала Пятра разам з іншымі вучнямі. Настаўніку адразу гавораць непрыемную навіну. Цешча Пятра ляжыць у гарачцы. У век адсутнасці антыбіётыкаў сітуацыя сур'ёзная. Магчыма, гэта была малярыя ці іншае захворванне. Звернем увагу на слова "адразу". Езусу адразу гавораць пра праблему. Калі мы маем у нашым жыцці падобныя сітуацыі, нам неабходна дзейнічаць такім жа чынам. Адразу гаварыць Богу пра свае праблемы, пра хворых сваякоў, пра клопаты ў сям'і. Не чараўніцы і экстрасэнсы наш паратунак, а сам Езус.

Нельга адцягваць прыманне сакраманту намашчэння хворых. Ён устаноўлены ў Касцёле менавіта для таго, каб дапамагаць хворым хутчэй устаць на ногі. Аднак жа ёсць яшчэ вельмі важная акалічнасць. Каб аздараўленне адбылося, Езус павінен быць у нашым доме. Трэба запрасіць Яго ў сваю сям'ю. Па чым бачна, што Бог прабывае сярод нас? Ці па надпісе на дзвярах С+М+Б+2021? Напэўна, не. Бог ёсць там, дзе людзі збіраюцца ў Яго імя. Дзе ёсць малітва, закліканне Яго святога імені і прабачэнне ў Яго імя.

Пастава цешчы Пятра таксама вымоўная. Адразу пасля выздараўлення яна пачынае прыслужваць Хрысту і вучням. Калі мы атрымліваем нейкі дар ад Бога, натуральнае наступства гэтага – удзячнае паслугаванне Касцёлу, супольнасці. Быць можа, мая парафія патрабуе якраз маёй ахвярнай дзейнасці? Задумаюся, чым я магу дапамагчы Касцёлу?

На наступны дзень Езус накіроўваецца на малітву. Заўважым акалічнасці гэтага. Па-першае, Ён устае вельмі рана, яшчэ перад узыходам сонца. Па-другое, Езус ідзе ў пустыннае месца. Гэтыя два моманты могуць быць добрай падказкай і для мяне, каб мая малітва была плённая. Варта прысвяціць Богу свой ранішні час і пастарацца засяродзіцца на малітве, калі ніхто і нішто не замінае ў гэтым.

**14 лютага 2021г.**
**VI звычайная нядзеля**
***Мк 1, 40-45***

Праказа – страшнае бактэрыяльнае захворванне, ад якога ў часы Хрыста не было паратунку. Хворы на праказу мучыўся ад болю, таму што па целе распаўсюджваліся раны і язвы, якія не гаіліся, а крываточылі і гнаіліся. Часта праказа прыводзіла да страты канцавінаў і магла стаць прычынай слепаты. Такі дыягназ быў раўназначны смяротнаму прысуду. Аднак фізічныя цярпенні хворага былі не адзінай яго пакутай. Справа ў тым, што, каб неяк пазбегнуць распаўсюджвання эпідэміі праказы, закон забараняў інфекаваным жыць разам са здаровымі людзьмі. Хворы чалавек павінен быў знаходзіцца за горадам ці паза вёскай, насіць разадранае адзенне і крычаць: "Нячысты! Нячысты!" Дадатковай забаронай хвораму быў наказ не ўдзельнічаць у набажэнствах выбранага народу ў святыні. Праказа станавілася прычынай як фізічных, так і духоўных пакутаў.

Хворы на праказу робіць даволі смелы ўчынак і прыходзіць да Хрыста, тым самым парушаючы закон Майсея. Ён рызыкуе быць выгнаным і пакараным. Цікавая ягоная просьба. Ён просіць не аб аздараўленні, а аб ачышчэнні. Што намякае на яго глыбокую прагу зноў увайсці ў малітоўную супольнасць Ізраэля. Езус працягвае сваю руку і ачышчае хворага на праказу. Рызыкоўны жэст для чалавека – дакрануцца да такога хворага, але для Хрыста гэта жэст непераможнай Боскай моцы. Езус забараняе ачышчанаму расказваць пра гэты цуд. Былы пракажоны парушае гэты наказ. Гэта прыводзіць да таго, што Езус не можа ўвайсці ў горад. Цяпер яны мяняюцца месцамі. Езус становіцца выгнаннікам. Ён вылечвае пракажонага сваім уласным коштам. Штосьці падобнае адбудзецца і пазней. Езус памяняецца месцамі з крымінальнікам Барабам, якога натоўп адпусціць на свабоду, а Хрыста прысудзіць да ўкрыжавання.

**21 лютага 2021г.**
**I нядзеля Вялікага Посту**
***Мк 1, 12-15***

Дух выводзіць Езуса ў пустыню. Такім чынам Ён як бы паўтарае шлях самых першых людзей – Адама і Евы, якім таксама было наканавана пакінуць Эдэмскі сад. У гэтым бачная глыбокая Божая задума, якая пакрысе раскрываецца перад намі, калі мы разважаем над Божым словам у кантэксце двух Запаветаў: Старога і Новага.

Езус прабывае ў абшары ля Мёртвага мора 40 дзён. Што прыпамінае нам гэтая лічба? Менавіта столькі ж дзён прабываў Майсей на гары Сінай, дзе атрымаў дзесяць Божых наказаў ад Госпада. Сорак гадоў вандраваў абраны народ па пустыні перад тым, як увайсці ў абяцаную зямлю. Пустыня ў Біблії – гэта небяспечнае месца, дзе пануюць сілы зла і рыскаюць драпежныя звяры. Езус прыходзіць сюды, каб прайсці праз спакусы, перажыць выпрабаванне. Яго спакушае сатана. Той самы, які спакушаў Адаму і Еву. "Сатана" азначае "праціўнік", "непрыяцель". Езус уваходзіць на яго тэрыторыю, каб яго перамагчы. Але якім чынам перамагчы? Ці ў адзін момант сваёй Боскай моцай, як маланка з неба? Не. Езус перамагае сатану ў чалавечым целе, будучы самым звычайным чалавекам і сапраўдным Богам.

Хрысціянская традыцыя прыпамінае нам, што духоўнае змаганне – гэта істотная частка жыцця ў Хрысце. На самай справе ўся чалавечая гісторыя – гэта гісторыя змагання са злом. Беручы прыклад з Хрыста, нам трэба адкінуць і перамагчы д'ябла з дапамогай Божай ласкі. Так, часам мы можам сябе адчуваць усяго толькі адзінокімі слабымі ваярамі ў пужлівым пустынным месцы. Але варта памятаць, што, як Бог паслаў сваіх анёлаў Хрысту, так і нас не пакіне без дапамогі. Трыванне і малітва – вось што нам неабходна, калі мы перажываем перыяд Вялікага Посту.



**28 лютага 2021г.**
**II нядзеля Вялікага Посту**
***Мк 9, 2-10***

Езус узяў з сабой трох вучняў на гару Табор і перамяніўся перад імі. Чаму Ён узяў менавіта Пятра, Якуба і Яна? Напэўна, таму, што на іх будзе ўскладзена адказная місія кіравання першым Касцёлам. Пётр – першы сярод апосталаў, якому Езус перадасць ключы ад Нябеснага Валадарства. Улада ключоў абазначае вярхоўную місію ва ўсім Каталіцкім Касцёле. Якуб першым сярод апосталаў прыме мучаніцкую смерць. Ян – адзіны з апосталаў застанецца пад крыжам Збаўцы і памрэ ўласнай смерцю ў глыбокай старасці. Перамяненне Хрыста было патрэбна вучням, каб паказаць ім сапраўдную Божую хвалу. Езус перамяняецца, каб і мы хацелі перамяніцца. Спачатку тут, на зямлі, становячыся штораз больш лепшымі і святымі, а пазней і ў небе, прабываючы ў Богу-Святле. Евангеліст Мацвей зазначае ў Евангеллі: "Тады праведнікі заззяюць, як сонца, у Валадарстве Айца". З'яўленне Майсея і Іллі ўказвае на важнасць Старога Запавету. Майсей сімвалізуе старазапаветны Закон, а Ілля – прарокаў. Як і падчас хросту Езуса, на гары перамянення гучыць голас Айца Нябеснага: "Гэта Сын Мой умілаваны, Яго слухайце." Нам усім варта прыслухацца да гэтага голасу і спытаць у сябе, наколькі вучэнне Хрыста ў маім жыцці з'яўляецца важным і асноўным? Езус паказвае нам сёння напрамак, куды ісці. Ён з упэўненасцю сведчыць, што Нябеснае Валадарства рэальнае, нябесная хвала існуе. Каб увайсці туды, нам трэба праявіць паслухмянасць вучняў і пайсці за Хрыстом.

***Разважанні падрыхтаваў кс. Віктар Місевіч, г. Віцебск***



Гара Перамянення Пана

## Ва ўмовах пандэміі змяняецца абрад пасыпання попелам у Папяльцовую сераду



**12 студзеня Кангрэгацыя Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў выдала Ноту, якой у паўсюдным Касцёле ўстанаўліваецца новая форма пасыпання галоваў попелам у Папяльцовую сераду.**

Сёлета Вялікі пост распачнецца 17 лютага, і ў гэты дзень святары ва ўсім свеце з увагі на пандэмію каранавірусу абавязаны прытрымлівацца новага парадку пасыпання галоваў попелам.

Нота акрэслівае, што пасля благаслаўлення попелу і акраплення яго асвячонай вадой, якое адбываецца без словаў, святар звяртаецца да прысутных, адзін раз прамаўляючы адну з формул, пададзеных на Папяльцовую сераду ў Рымскім Імшале: «Навярніцеся і верце ў Евангелле» або «Памятай, што ты прах і ў прах вернешся».

Пасля гэтага святар ачышчае рукі, накладае ахоўную маску, якая закрывае нос і рот, і пасыпае галовы тым, хто да яго падыходзіць, або, калі так зручней, сам падыходзіць да людзей, якія стаяць на сваіх месцах. Святар пасыпае галовы попелам, не прамаўляючы пры гэтым ніякіх словаў.

Ноту з новымі прадпісаннямі падпісалі Прэфект Кангрэгацыі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў кардынал Рабэр Сара, а таксама сакратар арцыбіскуп Артур Рошэ.

*Catholic.by*

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

## Працягваем вывучаць Біблію разам з "Пазнавайкай."

У гэтым нумары падрабязней даведаешся пра жыццё Самуіла – хлопчыка, жыццё якога, з ранняга дзяцінства было прысвечана Госпаду. Прачытай гісторыю Самуіла ў Першай кнізе царстваў 3, 1-21.

### Заданне №1.

Аднойчы ноччу Гасподзь паклікаў Самуіла. Калі злучыш кропкі па парадку, убачыш, што рабіў Самуіл, калі пачуў Голас Госпада. Затым размалюй, што атрымалася.



### Заданне №2.

Ці памятаеш, колькі разоў Гасподзь клікаў Самуіла? Знайдзі сярод малюнкаў і літар лічбу, яна і будзе адказам на гэтае пытанне.



### Заданне №3.

Гасподзь выбраў Самуіла сабе на службу. Кім стаў Самуіл? Разгадай рэбус і даведайся правільны адказ.



АДКАЗ: ___________________

### Заданне №4.

Вельмі хутка ў Касцёле распачнецца перыяд Вялікага Посту. Адным з самых галоўных набажэнстваў падчас Посту з'яўляецца Крыжовы Шлях. Праз гэтае набажэнства мы разважаем над мукай і смерцю Езуса Хрыста. У наступным заданні прапануем табе праверыць, ці добра ты ведаеш Крыжовы Шлях Хрыста, і зрабіць сабе картку-памятку, з якой можаш хадзіць на набажэнствы Крыжовага Шляху ў касцёл.

Заданні:

1. Асцярожна выражы рамку з пустымі стацыямі Крыжовага Шляху і прыклей на цвёрды кардон.
2. Выражы кожную стацыю і ўклей ў пустую рамку на картцы-памятцы, адпаведна свайму нумару.
3. Папрасі дарослых цябе праверыць.



| | | |
|---|---|---|
| 1. | 2. | 3. |
| 4. | 5. | 6. |
| 7. | 8. | 9. |
| 10. | 11. | 12. |
| 13. | 14. | |

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

